PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 2 (2174) Год XLIII Беласток 11 студзеня 1998 г. Цана 1 зл.



*Каплічка ў Дубінах.* Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

*Усім нашым чытачам жадаем спакойных і радасных Калядных святаў, прыбытку ў хаце і добрага настрою ў Новым 1998 годзе.*

*Рэдакцыя*

## У нумары



# Гісторыя маёй вёскі

Іван Рудэчка

Вёска або паселішча Войшкі была заснавана праўдападобна ў XV ст. у выніку каланізацыі Падляшша пабужанскімі ўсходнеславянскімі плямёнамі, якую праводзілі літоўскія ўладальнікі Бельска.

У сямідзесятых гадах XVI ст. Войшкі належалі арандатарам каралевы Боны і былі падпарадкаваны фальварку ў Сталавачы, аддеглым ад Войшкаў на 10 км. Войсьні — так тады называліся Войшкі — уваходзілі ў склад Антонавіцкай воласці з цэнтрам у Антонавічах, сённяшніх Рыбалах. Цяперашняя назва „Войшкі" выступае ў 1661 годзе і, відавочна, выводзіцца ад імя Войслаў — слаўны воін.

У сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя, падчас адмены паншчыны, царская камісія, якая была створана для вымярэння і надзелу зямлі сялянам, сцвердзіла, што ў Войшках не хапае адпаведнай колькасці зямлі. Шасці сялянскім сем'ям было запрапанавана перасяленне ў Сталавач, дзе мелі яны атрымаць належную ім зямлю, аднак ніводная сям'я на гэта не згадзілася. У выніку таго жыхары Войшкаў атрымалі менш зямлі на ўчастак: войшкаўскі ўчастак ахопліваў 12 га, тады калі ў Рыбалах — 18 га. Першае вымярэнне зямлі ў Войшках адбылося ў 1556 годзе, а адзінкай вымярэння была тады валока.

Участкі былі распалажаны на трох палетках. Першы палетак называўся Подбіляне і ахопліваў ён тры адрэзкі, якія называлі тут *рызкамі*: Ветэшэцкую, Сэрэдіну і Хвастоўскую; назвы гэтыя выводзяцца ад частак вёскі: Веташкі (ад поўначы), Сэрэдіна і Хвасты. Другі палетак, сярэдні, называўся Загуменне і працягваўся ад заячкаўскіх да рыбалаўскіх палёў; на гэтым палетку стаяла і вёска. У склад палетка ўваходзілі чатыры *рызкі*: Ветэшэцкая, Сэрэдіна, Хвастоўская і Даліна. Трэці палетак — Падрэчка — быў ад поўдня і ахопліваў прынараўскія сенажаці. Было ў ім чатыры зямельныя, такія як у суседнім, *рызкі* і дзве лугавыя: Хвастоўская і Ветэшэцкая. Апрача іх у кожным палетку былі яшчэ меншыя *рызкі* званыя наддаткамі.

[працяг ☞ 10]



## Самародны даследчык мінулага

Аляксандр Вярбіцкі

*— Гісторыяй нашай вёскі зацікавіўся я гадоў дваццаць-трыццаць таму назад, — расказвае жыхар вёскі Войшкі, што цяпер у Юхнавецкай гміне,* ***Іван Рудэчка****. — Папала мне тады ў рукі брашура пратаіерэя Панько пра гісторыю Рыбалаўскага прыхода, а там было многа напісана і пра Войшкі. І там я знайшоў многа цікавага, а паколькі і сам па сабе цікавіўся я гісторыяй, пачаў запісваць усе звесткі пра мінулае маёй вёскі. Заносіў я туды і цікавыя інфармацыі з „Нівы", а пасля здабыў я кнігу Глінкі, дзе было многа пра гісторыю Беласточчыны, у тым ліку і пра Войшкі.*

[працяг ☞ 10]

# Мы прачыталі

*PRL to był po prostu syf. Wielki obrzydliwy syf. Kraj szarości i brudu, kraj łuszczącego się tynku i smrodu obszczanych bram, kraj wyrobów czekoladopodobnych, dżemów pomarańczowych z dyni i opakowań zastępczych, gliniastego chleba i zalatującej naftą wódki. W peerelowskim syfie nie czekało człowieka nic poza wielkim staniem w kolejce, szarością i bylejakością. Życie w tym syfie było zmarnowanym.*

*Najwyższy Czas, nr 51 (1997 r.)*

Нам неяк здаецца, што не ўсе грамадзяне Польшчы так думаюць. Былыя работнікі „пэгеэраў” гавораць, напрыклад, што з „раю” трапілі ў „сыф”.

* * *

*Masową motoryzację w Polsce zapoczątkowało skrzyżowanie motopompy z wanną — Syrena 103. Cena tego marzenia milionów Polaków wynosiła 42 średnie pensje miesięczne.*

*Polityka, nr 51 (1997 r.)*

* * *

*Сёння — адукацыя для ўсіх, заўтра — адукацыя для кожнага*, — сказаў лукашэнкаўскі міністр адукацыі Васіль Стражаў.

*Голас Радзімы, н-р 51 (1997 г.)*

Зразумела, на „общепонятном языке”.

* * *

*Łukaszenko bierze się do naprawy gospodarki, chce zmienić Białoruś w gospodarczego tygrysa. Jednak zamiast rynkowych reform proponuje stare metody: dekrety, narady produkcyjne i pokazowe aresztowania. W listopadzie w obecności kamer telewizyjnych aresztowano prezesa jednego z najbardziej znanych gospodarstw rolnych Wasilija Starowojtowa i ministra rolnictwa Wasilija Leonowa. Starowojtowa Łukaszenko oskarżył, że w jego kołchozie nie skoszono 10 ha zboża. Leonow bronił Starowojtowa, więc też trafił za kraty. Prezydent zademonstrował, że nikt nie może czuć się bezpieczny — ani dawni bohaterowie, ani starzy towarzysze. Gdy Łukaszenko występował na naradzie w Mohylewie, wśród dyrektorskiego korpusu panowała głęboka cisza. Nikt nie ośmielił się zabrać głosu. Nie ma bowiem takiego kołchozu, w którym inspektorzy nie mogliby się czegoś doszukać — nie skoszonego kawałka łąki, niewykorzystanego kredytu. Pokazowa lekcja tępienia korupcji może mieć jednak fatalne następstwa. Dyrektorzy mogą nie tylko przestać kraść, ale także wykazywać jakąkolwiek inicjatywę, czekając na instrukcje z kancelarii prezydenta. Łukaszenko tymczasem pojawił się z „krótkimi”, „nieoczekiwanymi”, „gospodarskimi” wizytami w stołecznych sklepach. Sprawdzał czy dla wszystkich starczy szampana na Nowy Rok.*

*Gazeta Wyborcza, nr 296 (1997 r.)*

Дзякуючы Аляксандру Рыгоравічу — хапіла.

* * *

*Białorusini chcą wejść w nowe tysiąclecie bez Łukaszenki.*

*Gazeta Wyborcza, nr 292 (1997 r.)*

Ale Łukaszenko ma to gdzieś.

* * *

*Белоруссия — чёрная дыра в центре Европы*, — заяўляе

*Русская мысль, н-р 4198*

* * *

*W celi nie było niczego, nawet toalet ani prycz. Raz dziennie dostawaliśmy miskę wodnistej zupy. Więźniowie cały czas byli głodni i próbowali jeść, co tylko im wpadło w ręce: szczury, robaki. Ja ugotowałem podeszwę swojego buta. Musieliśmy pracować po dziesięć godzin dziennie. Praca polegała głównie na oraniu ziemi, tylko że zamiast wołów pług ciągnęli więźniowie. Zbieraliśmy ludzkie odchody na nawóz. Kto nie wypełniał normy był torturowany, przedłużano wyrok lub zabijano*, — сказаў тыбецкі манах, якому ўдалося вызваліцца з кітайскай турмы.

*Gazeta Wyborcza, nr 293 (1997 r.)*

* * *

*Większość dzieci wychodzi ze szkoły zupełnie nieprzygotowana do dalszego życia. Podstawówka nie uczy nawet napisania krótkiej wypowiedzi na własny temat. W szkole uczy się natomiast wielu rzeczy zupełnie do niczego niepotrzebnych — może oprócz rozwiązywania krzyżówek i pisania klasówek. Na co komu opis przebiegu mejozy i mitozy oraz umiejętności wydukania definicji metra.*

*Polityka, nr 51 (1997 r.)*

* * *

*Jako Białorusini i zarazem obywatele Polski wyznajemy zasadę nieingerencji w sprawy polityczne naszego sąsiada. Uważamy, że polityczne awanturnictwo, które znamy z autopsji i do którego próbują nas prowokować m.in. „niezależne” media polityczne, jest obce naszej mniejszości i naszemu towarzystwu, a korzystanie przez nas z różnych form pomocy, czy też przyjęcie symbolicznych upominków (od Łukaszenki — red.) w dowód uznania zasług dla kultury białoruskiej nigdy nie było traktowane przez nas jako wyraz określonej deklaracji czy też orientacji politycznej*, — пішуць Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ і Ян Сычэўскі, старшыня ГП БГКТ.

*Kurier Poranny, nr 296 (1997 r.)*

# З мінулага тыдня

**Прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Злучаных Штатах Амерыкі** сарганізавалі ў Нью-Йорку пікет ля будынка Арганізацыі Аб’яднаных Нацый у падтрымку арыштаваных чатыры месяцы таму **Вадзіма Лабковіча і Аляксея Шыдлоўскага**, якія абвінавачваюцца ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Шмат акцый у падтрымку зняволеных юнакоў было праведзеных і ў Беларусі. Гэта былі пікеты, заявы і іншыя праявы салідарнасці, у тым ліку славуты прабег з Жодзіна ў Стоўбцы актывістаў Маладога фронту.

**Закон аб чужаземцах**, які ў канцы мінулага года набыў юрыдычную сілу, уводзіць строгую рэгістрацыю і кантроль за запрашэннямі, на аснове якіх прыязджаюць у Польшчу, між іншым, грамадзяне былога Савецкага Саюза. Той, хто запрашае чужаземца, абавязаны несці ўсе кошты яго прабывання, уключна з выдаткамі на яго магчымае лячэнне і выдварэнне за межы краіны. Калі падставай для выдварэння паслужыць нелегальная праца чужаземца, тады кошты дэпартацыі нясе работадавец. Прыязджаючы ў Польшчу чужаземец павінен мець грошы на пабыўку, якой тэрмін не можа быць даўжэйшы чым год. Далейшае прабыванне патрабуе атрымання дазволу на пастаянную пабыўку.

**Крысціна Лукашук** 23 снежня 1997 года атрымала з рук прэм’ер-міністра **Ежы Бузка** намінацыю на пост беластоцкага ваяводы. Апошнім часам кіравала яна аддзелам падрыхтоўкі кадраў беластоцкай „Салідарнасці”, а раней працавала наméснікам дырэктара аддзела гаспадарчай палітыкі і маёмасных пераўтварэнняў Ваяводскай управы.

**З Генеральнага консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку** дзве маладыя дзяўчыны (16 і 19 гадоў) сарвалі дзяржаўны сцяг. Інцыдэнт здарыўся вечарам 25 снежня 1997 года. Паліцыя злавіла хуліганак, дапытала іх і выпусціла дадому. Праўдападобна справа будзе перададзена пракурору.

**Школьныя элімінацыі IV Алімпіяды беларускай мовы** адбыліся 17 снежня 1997 года ў Гайнаўскім і Бельскім беларускіх ліцэях. Вучні пісалі працы на аснове творчасці класікаў і сучасных літаратараў, між іншым, **Адама Глёбуса, Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава**. Лаўрэаты школьных спаборніцтваў прымуць удзел у раённых элімінацыях, якія прадбачваюцца ў другой палове студзеня.

**Беластоцкія купцы** накіравалі адкрытае пісьмо ў справе нелегальнага гандлю на гарадскіх базарах. Патрабуюць яны выканання рашэння Гарадской рады, якая дазваляе гандляваць толькі за адпаведнымі дазволамі. У якасці прыкладу прыводзяць яны базар на вуліцы Юравецкай, дзе большасць гандляроў не мае патрэбных дакументаў, што стварае несумленную канкурэнцыю для легальных купцоў, якія плацяць падаткі і страхоўку.

**Пры дарозе Гайнаўка—Белавежа** сувязісты, якія пракладалі тэлефонную лінію, выявілі ў зямлі чалавечыя астанкі. Фрагменты шкілета паходзяць праўдападобна з перыяду II сусветнай вайны. Рашэннем пракурора астанкі былі забяспечаны для далейшага аналізу.

**У Коніне** беларуская аўтафура, якой кіраваў п’яны вадзіцель (3,5‰ алкаголю ў крыві), наехала на дзве легкавыя машыны. У адной машыне згарэла 21-гадовая жанчына, а астатнія пасажыры, у тым ліку двухгадовае дзіця, атрымалі раненні. Беларускага шафёра трэба было адаслаць у медвыцвярэзнік, а справу перадаць пракурору.



# Весткі з Беларусі

**АБСЕ ў Менску**

З 1 лютага 1998 года ў Менску пачне працаваць прадстаўніцтва АБСЕ. Яшчэ ў верасні мінулага года такая прапанова АБСЕ рашуча адкідалася ўладамі Беларусі. У канцы прэзідэнт Беларусі змяніў пазіцыю. На думку Сямёна Шарэцкага, старшыні Вярхоўнага Савета XIII склікання, такая змена выклікана тым, што ў сярэдзіне 1999 года пяцігадовы тэрмін праўлення першага прэзідэнта Беларусі згодна з канстытуцыяй 1994 года скончыцца. У сувязі з тым, што еўраструктуры і еўрапейскія дзяржавы не прызнаюць легітымнасці г.зв. лістападаўскага рэферэндуму 1996 года, яны аўтаматычна праз паўтара года не будуць прызнаваць легітымным прэзідэнта Лукашэнку. Такім чынам Лукашэнка стараецца не папасці ў палітычны вакуум і вырашыў надаць існуючаму рэжыму рысы нейкай лібералізацыі і дэмакратызацыі ды згадзіўся на прысутнасць у краіне міжнародных назіральнікаў. „Прыезд прадстаўнікоў АБСЕ, — лічыць Сямён Шарэцкі, — гэта сведчнне таго, што беларускі рэжым нарэшце прызнаў перад міжнароднай грамадскасцю наяўнасць парушэнняў правоў і свабод на Беларусі. У краіны, дзе такіх праблемаў няма, місіі АБСЕ не прыязджаюць”.

**Выбараў не будзе**

Прэзідэнт Беларусі ў інтэрв’ю агенцтву „Інтэрфакс” закрануў пытанні правядзення парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Аляксандр Лукашэнка яшчэ раз падкрэсліў, што цяперашні парламент з’яўляецца працаздольным і ніякіх датэрміновых выбараў у краіне не будзе. „Парламенцкія і прэзідэнцкія выбары пяройдуць у тэрміны ўказаныя канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь”, — адзначыў прэзідэнт.

**Сустрэча з мітрапалітам**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з мітрапалітам Менскім і Слуцкім, патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам. На сустрэчы абмяркоўвалася пытанне прысуджэння прэмій за духоўнае адраджэнне. Сярод асоб вартых гэтай прэміі называецца імя мастака Кузміча, які на працягу пяці гадоў працаваў над узнаўленнем крыжа прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Абмяркоўвалася таксама святкаванне 825-годдзя з дня смерці прападобнай Еўфрасінні.

**Не для АЭС**

Дырэктар Інстытута праблем энергетыкі Акадэміі навук Аляксандр Міхалевіч паведаміў, што ў бліжэйшыя пяць гадоў не тое, што будавацца, а нават узнімацца пытанне аб магчымым будаўніцтве атамнай электрастанцыі ў Беларусі не будзе. Да такога вырашэння грамадскага канфлікту, які апошнім часам пачаў развівацца паміж навукоўцамі і грамадскімі арганізацыямі прыйшлі і самі навукоўцы, і ўрад краіны.

**Дарагая свініна**

Рашэннем урада павялічаны закупачныя цэны на свініну. Цяпер за адзін кілаграм жывой вагі дзяржава будзе плаціць вытворцу 35 тыс. рублёў. Паводле спецыялістаў, нават пасля павышэння закупачная цана па-ранейшаму не пакрывае вытворчых затрат, якія ў сярэднім па сельгаспрадпрыемствах складаюць каля 40 тыс. руб. (1 дол.) за кілаграм. Таму не выключана чарговае павышэнне дзяржаўных цэн яшчэ на 10 працэнтаў.

**Славяне — яднайцеся!**

У Менску зарэгістравана міжнароднае грамадскае аб’яднанне Сусветны кангрэс славян. Пасведчанне аб яго рэгістрацыі міністр юстыцыі Беларусі Генадзь Варанцоў урачыста ўручыў заснавальнікам на арганізацыйным форуме, які адбыўся 22 снежня 1997 года ў беларускай сталіцы. Мэта новай арганізацыі — стварэнне прадпасылак для аб’яднання славянскіх народаў на аснове цеснага і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, развіццё сувязей паміж славянскімі дзяржавамі, народамі і дыяспарамі.

**Трагедыя на дарозе**

На дарозе Сямашкі—Капыль, каля вёскі Мажы адбылося дарожна-транспартнае здарэнне. Аўтобус, які перавозіў 28 школьнікаў з вёсак Мажы і Вусава ў Капыльскую сярэднюю школу № 1, сутыкнуўся з аўтамабілем ГАЗ-53. У аварыі загінулі двое дзяцей (першалкаснік і шасцікласнік). Астатнія былі дастаўлены ў раённую бальніцу ў Капылі.

# Вакол грошай

Апошняе ў мінулым годзе пасяджэнне Гарадской рады Бельска праходзіла на палакіраваным да зіхатлівасці, падрыхтаваным пад наваголдні балі паркеце Бельскага дома культуры. А жыхарам Студзіводаў давялося, можа быць, прытупнуць на звычайных дошках. Сярод прынятых раднымі ў той дзень зменаў бюджэта на 1997 год, 8 тысяч злотаў, запланаваных і не расходаваных на рамонт святліцы ў Студзіводах, былі перакінуты пад іншы пункт бухгалтарскай кнігі.

Таксама гарадская прыбіральня на цэнтральным скверы — паміж „тройкай" і амфітэатрам — пачакае нейкага большага фэсту. Тады будуць пабелены сцены і на нейкі час схаваюцца пад вапнай брыдкія надпісы. Што там усярэдзіне, я не скажу, бо не быў, не бачыў і не ведаю, ці патрэбныя былі на рамонт тыя 6 тысяч злотаў, якія напрыканцы года зэканоміў на публічнай прыбіральні бюджэт горада.

Сабакі, як вядома, такімі ўстановамі не карыстаюцца. Затое некаторыя радныя і хацелі іхніх ўласнікаў аблажыць найбольшымі з магчымых аплатаў. Але спакталіся яны з супраціўленнем любіцеляў чатырохногіх сяброў. Тыя другія, у сваю чаргу, не толькі прапанавалі зняць з уладальнікаў сабак усякія плацяжы, але нават даплачваць ім за апеку над жывёламі. На жаль, па словах юрысконсульта, законы такой магчымасці не прадбачваюць. Рада выбрала, можна сказаць, кампрамісную развязку — памяркоўнае павышэнне падатку ад сабакі з 22 на 24 злоты.

Каб загадзя не цешыліся тыя, што сабак не гадуюць, Рада павысіла таксама падаткі — больш-менш у такой самай ступені — ад нерухомай маёмасці. А вось дарожны падатак ад грузавых машын і аўтобусаў застаўся такі як і летась. Тут і без гмінаў дастаткова прыцíснула дзяржава, налічваючы гэты падатак разам з гаручым.

М. В.

# У дубіцкіх пажарнікаў

У 1994 годзе пажарнікі з Дубіч-Царкоўных адзначалі 75-годдзе заснавання сваёй часці. Юбілейныя святкаванні хутка скончыліся і насталі звычайныя будні... І хаця зіма павінна для пажарнікаў быць перыядам адпачынку, аднак пажары здараюцца і ў гэтую пару года. Апошнім часам пажарнікі выязджалі ў Грабавец тушыць стадолу.

У гміне Дубічы-Царкоўныя працуе шэсць пажарных каманд: у Дубічах-Царкоўных, Тафілаўцах, Вэрстоку, Старым Корніне, Карыціскіх і Елянцы. У гэтай апошняй вёсцы каманда распараджаецца толькі мотапомпай. Астатнія часці маюць пажарныя аўтамабілі з абсталяваннем.

Гмінным старшынёю пажарнай управы з'яўляецца войт гміны Анатоль Паўлоўскі.

Пажарная часць у Дубічах-Царкоўных карыстаецца двума аўтамашынамі. Пажарнікам старшынюе Яўген Кірылюк, а абавязкі начальніка выконвае Сцяпан Марчук. Шафёрамі ўжо шмат гадоў працуюць Канстанцін Качко і Ян Карнілюк. Нядаўна гміна купіла пажарнікам 19 камплектаў парадпага абмундзіравання, курткі і боты ды брандспойт.

Славамір Кулік

# Адгукнуліся на заклік улад

Калі ўсе людзі добрай волі ў Польшчы пачалі дапамагаць пацярпеўшым ад ліпенскай паводкі, Гайнаўская гміна не засталася ў баку. На яе заклік дапамагчы пацярпеўшым людзям, адгукнуліся жыхары вёсак Гайнаўшчыны. Людзі давалі грошы і звозілі збожжа. Калі ўсё падлічылі, атрымалася 7 884,30 зл. Гмінная ўправа ад сябе далажыла яшчэ 2 000 зл. Грошы (9 884,30 зл.) гміна пералічыла на рахунак канцылярыі Праваслаўнай Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіі. Збожжа людзі звезлі 18 тон. Найбольш, адну тону, перадаў Мікалай Яноўскі з вёскі Пераходы. Як відаць, сумленны ён чалавек і добрае сэрца ў яго. Ён ведае цану чужой бяды. На жаль, мала такіх сярод нас. Збожжа гміна перадала непасрэдна ў праваслаўныя прыходы, у адпаведнасці з дамовай з епіскапам з Вроцлава. Такім чынам праваслаўныя жыхары Гайнаўскай гміны, якіх тут пераважная большасць, дапамаглі сваім братам і сёстрам па веры, якія апынуліся далёка ад сваіх родных мясцін. Аднак, калі на месцы дзялілі збожжа, не абміналі іншаверцаў. 27 кастрычніка 1997 года гмінны чыноўнік Уладзімір Ціханюк спадарожнічаў транспарту збожжа ў раён паводкі. Завёз яго ў праваслаўныя прыходы Усіх Святых у Кажанах і св. Міхала ў Ліпінах. Гэтая апошняя мясцовасць ляжыць каля Новай Солі Зялёнагурскага ваяводства. Збожжа прымаў і раздаваў пацярпеўшым бацюшка Дарыюш Цёлка. Калі спадар Ціханюк пасля вяртання пачаў расказваць, што нарабіла вада, цяжка нам у гэта было паверыць. Нам, якія жывём далёка ад рэк і вялікай вады, усё гэта здавалася няпраўдай. Для нас вада — самы найлепшы прыяцель, які дае нам толькі дабро.

— І вось, калі мы заехалі да людзей з дапамогай, яны не ведалі як нас прыняць, — кажа спадар Ціханюк. — Яны нас сустрэлі з радасцю і слязьмі ў вачах. Нам было прыемна, што можам людзям перадаць хаця крышачку радасці. Не ведалі яны як нам дзякаваць і як нас гасцяваць. Гаварылі, што ім і сон не прысніўся, што дзесьці там, на Беласточчыне, знойдуцца людзі, якія захочуць раздзяліць іх гора. Ім здавалася, што яны жывуць адны, як забыты астравок сярод вялікай вады, і што аб такой жменьцы праваслаўных ніхто не памятае. Да нашага прыезду, — кажа У. Ціханюк, — ніхто іх не наведаў з дапамогай. Вядома як аб нас дбаюць тут, што нас ужо і не так мала, а што гаварыць аб іх!

Многа расказаў спадар Ціханюк аб жыцці-быцці праваслаўных на захадзе Польшчы. Кожны дзень нясе ім свае перашкоды і непрыемнасці і даводзіцца ім самім пераадольваць іх. Аднак яны не здаюцца, трымаюцца сваёй рэлігіі і сваіх абычаяў. Ведаюць, што калі збяруцца двое і Гасподзь тады паміж іх.

Гмінная ўправа атрымала пісьмовую падзяку ад царкоўных улад, ад людзей, якіх мы не пакінулі ў патрэбе. А сапраўднага прыяцеля пазнаецца толькі ў бядзе. Ад вякоў так было і надалей так астанецца.

Грыша Мароз

# Калляднікі

Калядаванне — гэта адзін з цікавейшых абрадаў праваслаўных святаў Нараджэння Хрыстовага, калі дзеці і моладзь у розным узросце ходзяць па хатах і слаўяць Нованароджанага. Нашы бацькі і дзяды расказваюць, што на першы дзень святаў у кожнай вёсцы і пасёлку паяўляліся каляднікі, якія часта насілі з сабой „гвязды". Залежна ад вясковых традыцый і спрыту маладых паяўляліся „гвязды" меншыя або большыя. Апрача спрыту патрэбны быў і вопыт, каб зрабіць каляровую двухрадовую „гвязду" з прыгожым „лічкам". „Лічко" ўпрыгожвалася рознымі арнаментамі ці іконкай з выявай Хрыстовага Нараджэння. Паколькі калядаванне часта адбывалася вечарам, а каляднікі рэдка ўваходзілі ў хату, у „гвяздзе" трэба было прымацоўваць свечку, якую пазней замянілі ліхтарыкі. Спачатку гаспадары частавалі каляднікаў рознымі ласункамі, а пасля сталі дзякаваць за спеў грашыма. Але найважнейшым быў жа вясёлы святочны настрой і гульні пасля калядавання.

Тэхнічны прагрэс і міграцыя людзей у гарады сталі прычынай таго, што многа традыцый і розных абрадаў адыходзіць у нябыт. Аднак, калядаванне на Гайнаўшчыне захавалася не толькі на вёсках. Ад раніцы бегаюць малыя дзеткі з невялічкімі арыгінальна ўпрыгожанымі „гвяздачкамі". Цяпер жа столькі бліскучых і каляровых матэрыялаў. Хаця дзяўчаткі ходзяць без „гвяздаў", стараюцца паказаць сябе не горш за хлопцаў. Спяваюць жа прыгожыя калядкі. Вечарам паяўляецца старэйшая моладзь, якая ходзіць з „гвяздай" сваіх малодшых сяброў. У многіх вёсках захавалася яшчэ традыцыя „ўкупнага". Хлопцы і дзяўчаты, якія закончылі пачатковую школу, праходзяць нейкія выпрабаванні, а іх бацькі частуюць старэйшых сяброў і сяброўак. Толькі тады кандыдаты ў вясковую моладзь могуць калядаваць са старэйшымі і прысутнічаць на вясковых мерапрыемствах. Цяпер на першы дзень святаў многа вясковых забаваў, дык „дарослая моладзь" пасля калядавання раз'язджаецца па забавах або святкуе ў сваіх кампаніях. У Гайнаўцы таксама можна сустрэць каляднікаў з „гвяздамі", якія ходзяць не толькі на першы дзень святаў. Больш чым палову жыхароў горада састаўляюць жа выхадцы з навакольных вёсак. Вядома, калядуючы можна сабраць крыху грошай, а колькі ж пры гэтым смеху і радасці! На Гайнаўшчыне сустракаюцца розныя калядкі, але ў іх ліку найбольш старадаўніх, добравядомых: „Неба і зёмля", „Раждаство Хрыстова", „Дзіўная навіна", „Я ўмом хадзіла". Без каляднікаў і „гвяздаў" не было б такога святочнага настрою.

Аляксей Мароз

# Каляды ў мінулым

Каляды,інакш свята Нараджэння Хрыстова, з'яўляліся і з'яўляюцца адным з найважнейшых святаў як у праваслаўным веравызнанні, так і ва ўсім хрысціянстве. Беларуская абраднасць таксама заўсёды пакідала ім належнае месца. Гэта, перад усім, сямейныя святы, якія вельмі радасна і асабліва ўрачыста ўспрымаюцца дзецьмі і моладдзю. Для наймалодшых найважнейшым атрыбутам Калядаў з'яўляецца ёлка з падарункамі, якія прыносіць Дзед Мароз, а для школьнікаў — калядаванне. Уся сям'я сустракаецца ў час Куцці і здараецца, што з'яўляецца яна адзіным днём, калі прыязджаюць дзеці з Варшавы ці Гданьска. Не ва ўсіх сем'ях, аднак, захоўваецца традыцыя Куцці са старадаўнімі абрадамі.

Як расказвалі мне родныя, у міжваенны час у маёй сям'і ў Новаберазове Каляды святкаваліся вельмі дастойна, з усімі традыцыямі і належнымі абрадамі. Падрыхтоўка да святаў пачыналася ўжо ў час посту, калі калолі вепрука, рыхтавалі мясныя вырабы і прыбіралі хату. Маладыя клеілі „гвязду" і рыхтаваліся да калядавання. У дзень Куцці варыліся посныя стравы на Святую Вячэру. Дзяўчаты, а ў колішніх мнагадзетных сем'ях было іх многа, ад раніцы прыбіралі яшчэ пакоі. На сценах вешалі макаткі і рабілі з каляровай паперы павука. У маёй вёсцы ў міжваенны час толькі ў трох сем'ях прыбіралі ёлку. Туды вельмі ахвотна сыходзіліся дзеці з усёй вёскі. На галоўнай сцяне нашай хаты вісела восем абразоў, якія трэба было ўпрыгожыць белымі вышыванымі ручнікамі. Традыцыяй было нічога не есці, пакуль не пакажацца на небе першая зорка, таму і ўсе з нецярплівасцю яе чакалі. Найчасцей першымі прыкмячалі зорачку дзеці і тады ўсе сямейнікі сядалі за стол. Пад абрус і на лавы клалі сена. Мела яно гарантаваць добры ўраджай. Найстарэйшы і найбольш паважаны гаспадар, дзядуля, выцягваў сцябло, якое мела паказаць якой вышыні вырасце лён. Святая Вячэра пачыналася малітвай, благаслаўленнем дзядулі і пажаданнямі дачакаць наступных Каляд у здароўі, шчасці і дабрабыце. Першай стравай, з якой пачыналася Вячэра, была куцця. Пазней елі адзінаццаць іншых страваў: грыбны боршч, бурачаны боршч, селядцы з алеем, кісель з аўсянай мукі, боб, рыбу, бульбу, чырвоныя буракі, квашаную капусту, пірог з макам і кампот з сушаных груш і яблык. Пасля Святой Вячэры ўсе разыходзіліся спаць, а ўсё на стале заставалася начаваць. Жылі недалёка ад царквы, дык прачыналіся ад звону. Першая асоба, якая ўстала, ішла і будзіла іншых сямейнікаў прымаўкай: „Устань, прачніся, прабудзіся, Ісус Хрыстос нарадзіўся". Тады ўсе старэйшыя апраналіся і ішлі на Усяночную ў царкву. Дзядуля хадзіў яшчэ па агародчыку і трос за маладыя дрэўцы, паўтараючы вядомую прымаўку: „Устань, прачніся, прабудзіся, бо Ісус Хрыстос нарадзіўся", што мела гарантаваць добры фруктовы ўраджай. Толькі вярнуўшыся, раніцай, прыбіралі са стала. Куццю, якую не далі, клалі ў рэшата на панадворку. Людзі верылі, што куры, якія будуць есці куццю, не будуць несціся ў суседзяў. Сена заставалася пад абрусам аж но да Хрыстовага Хрышчэння. Толькі тады аддавалі яго жывёле, каб добра гадавалася. Пасля ўрачыстага снедання, дзе была ўжо і каўбаса, і крывянка, ішлі яшчэ крыху паспаць. Аднак, спаць перашкаджалі ўжо наймалодшыя каляднікі. Дзяўчаткі і хлопчыкі калядаваць хадзілі аддзельна. У міжваенны час плацілі ўжо грашыма, залежна ад ліку каляднікаў. Старэйшая моладзь хадзіла абавязкова з „гвяздай", а закалядаваныя грошы ішлі на абедню ў царкве і святочныя гульні. Другі і трэці дзень святаў старэйшыя людзі праводзілі ў царкве і на сямейных размовах, а маладыя гулялі на вясковых забавах.

Некаторыя святочныя абрады можна сустрэць і сёння, але многа іх адышло ўжо ў нябыт.

Аляксей Мароз

# Як нацмены грошы зараблялі

У 1957 годзе фінансавая камісія пры Радзе Міністраў Польскай Народнай Рэспублікі правяла была аналіз бюджэтаў таварыстваў нацыянальных меншасцей і вырашыла, што дзяржава зашмат грошай адводзіць на дзейнасць гэтых няпольскіх арганізацый. Камісія запрапанавала ўраду стварыць умовы, якія дазволілі б таварыствам зарабляць грошы на свае патрэбы. Апрача ашчаднасці ў дзяржаўным бюджэце, мэтай гэтага праекта было ажыўленне гаспадарчай актыўнасці нацыянальных меншасцей. У лістападзе 1958 года Рада Міністраў прыняла пастанову, якая адкрыла таварыствам магчымасць заснаваць свае кааператывы. Згоду на гэта дало таксама Міністэрства ўнутраных спраў, якое „апекавалася" нацыянальнымі меншасцямі.

Ніводнае таварыства не мела падрыхтаваных кадраў для кіравання прадпрыемствамі. Кожная меншасць атрымала 4 фірмы. Беларускае грамадска-культурнае таварыства стала ўладальнікам прадпрыемстваў па вытворчасці штучных рэчываў і эфірнага масла ў Варшаве, а таксама гравійнага кар'ера і пякарні на Беласточчыне. Украінскае таварыства атрымала, між іншым, прадпрыемства па вытворчасці тэкстыльных матэрыялаў у Пярэмышлі, Чанстахове і кілімаў у Кляшчэлях. Яўрэі мелі пад кантролем кааператывы мантажу электрычнай рэкламы і будаўніча-рамонтныя фірмы. Рускае культурна-асветнае таварыства, апрача вытворчых, распараджалася таксама гандлёвымі кааператывамі.

Пасля двух гадоў дзейнасці большасць кантраляваных таварыствамі нацыянальных меншасцей фірмаў апынулася на мяжы банкруцтва. Іх лёсам пачалі цікавіцца нават таварышы ў Цэнтральным Камітэце ПАРП. У 1959 годзе прыбытак далі толькі варшаўскія прадпрыемствы, якія знаходзіліся ў распараджэнні БГКТ. Яго велічыня складала палову бюджэту Таварыства. У наступным годзе сітуацыя была падобная. Гаспадарчая дзейнасць іншых таварыстваў была менш паспяховай. Украінцы выпрацавалі толькі 3 працэнты планаванага прыбытку, Рускае таварыства мела такія вялікія страты, што дзяржбяспека арыштавала дырэктара па справах гаспадарчых гэтай арганізацыі. Яўрэі таксама не мелі ніякага прыбытку ад гаспадарчай дзейнасці сваіх кааператываў. Кошт звязаны з дзейнасцю таварыстваў нацыянальных меншасцей поўнасцю вымушана была несці дзяржава. Прытым трэба было давесці да фінансавай раўнавагі фірмы, якімі распараджаліся нацыянальныя таварыствы.

У 1960 годзе Нацыянальная камісія пры Цэнтральным Камітэце ПАРП дайшла да высновы, што так па палітычных, як і па эканамічных прычынах гаспадарчая дзейнасць меншасных таварыстваў з'яўляецца непатрэбнай. Камісія запрапанавала, каб галоўныя праўленні гэтых арганізацый да 31 снежня 1960 года прадставілі Міністэрству ўнутраных спраў і Міністэрству фінансаў планы цалкавітай ліквідацыі сваёй гаспадарчай дзейнасці. Адначасова камісія прапанавала прывярнуць поўнае фінансаванне дзейнасці таварыстваў, што дазваляла б таксама на поўны кантроль усяго, што адбывалася ў гэтых арганізацыях. З увагі на добрыя гаспадарчыя вынікі шанц прадаўжаць гаспадарчую актыўнасць атрымаў кааператыў БГКТ — „Бэтэска". Неўзабаве стаў ён, апрача датацыі ад Міністэрства ўнутраных спраў, галоўным спонсарам дзейнасці Таварыства.

**Яўген Мірановіч**

# Нявыкарыстаныя фонды

Можа я і з'яўляюся, як кажуць, непапраўным аптымістам, але інтуіцыя мне падказвае, што трыкутнік Бельск—Гайнаўка—Нарва дасягне больш ўзровень развіцця, чым іншыя часткі ўсходняй Беласточчыны, дзякуючы добрым землям і працавітасці яго жыхароў. І хоць Грыша Мароз сцягваў на зямлю непапраўнага аптыміста і дылетанта ў справах сялянскага гаспадарання, то аднак, думаю, не утопіяй з'яўляюцца мае думкі, звязаныя з прагрэсам гэтага трыкутніка. Тым болей, што супадаюць не толькі думкі, але і дзеянні з „пазітывісцкай працай" Беларускага саюза ў беларускім асяроддзі.

Вандруючы па мясцовасцях Гайнаўшчыны, бачыўшы вялікі кантраст сялянскага жыцця ў розных вёсках, дайшоў я да вываду, што шанцам развіцця беларускай грамадскасці з'яўляецца згаданы трыкутнік. А калі я прачытаў яшчэ, што іншыя людзі — не лепшыя гаспадары чым нашы беларусы з Беласточчыны, добра выкарыстоўваюць дзяржаўную і еўрапейскую фінансавую і арганізацыйную дапамогу для развіцця свайго рэгіёна, падумаў: чаму ж нашым гэтым не пакарыстаецца. Розныя фонды аж просяцца, каб мільёны долараў выкарыстаць на актывізацыю нашых „трыкутнікаў". Для актывізацыі патрэбны тры рэчы: ахвотныя і вопытныя людзі, грошы і добрыя землі. Грошы, як я ўжо сказаў, ёсць, і не толькі ў банках, у сялян, добрыя пшанічныя землі таксама ёсць. А вось з людзьмі слабавата, асабліва вопытнымі, адкрытымі, мудрымі і маладымі. І такіх, у якіх перспектыва дзейнасці не абмежавана да ўласнага панадворка ці абы-якой пасады, на якой толькі душацца.

Я з Ленай Глагоўскай пабыў толькі адзін дзень у сталічнай Варшаве, калі мы стараліся здабыць грошы на Летнюю школу беларусістыкі, і здабыў многа інфармацый пра ўстановы, якія толькі ці дзеля таго былі створаны, каб паказаць мужыкам — працоўным і беспрацоўным, адукаваным і цёмным, такім, якія нешта гадуюць і абрабляюць зямлю. Пыталі мяне, каго я рэпрэзентую. Ну як жа каго, „Хатку"! Добра, казалі, паможам збудаваць дом, выгадны, еўрапейскі. Як, у Гданьску? — Мая „Хатка" ў Гданьску. А мяне цікавяць толькі магчымасці будавання, актывізацыі ў кутку Беласточчыны, у трыкутніку. Пыталі мяне, чаму я з Гданьска цікаўлюся трыкутнікам; ці там няма зацікаўленых? — Можа і ёсць, але баяцца запытацца нават, а каб яшчэ будаваць?! Ім і так добра ў іх малых айчынах, тым болей гміннамураднікам, каб толькі не парушаць іх спакой. Дайшлі да пасад і больш не трэба. Інакш, трэба бегаць, ездзіць, вяваць з бюракратыяй, актывізаваць. А ўрэшце і так ніхто добрага слова не скажа. Маем вольную гаспадарку, затым няхай тонамі бульбы, збожжа, мяса, фруктаў клапоціцца селянін, бо навошта ўсяго дабра столькі натварыў! Яго дабро, яго клопат. Каб даў яшчэ іншым зарабіць, а то скупіцца і на пасрэднікаў рабіць не будзе!

І так яно круціцца. А для гешэфту падставы ёсць — добрая зямля і куча нявыкарыстаных грошай!

**Міхась Куптэль**

# Зачараваны свет — Шагал

Пра Марка Шагала ведае амаль увесь свет, не толькі мастацкі. Паколькі на большасці ягоных карцін адлюстраваны Віцебск у розных кантэкстах, цяжка сабе ўявіць, што можна гаварыць пра Марка Шагала не ўспамінаючы яго. Таксама і наадварот — калі гаварыць пра Віцебск нельга пры гэтым абмінуць М. Шагала, хаця доўгія гады гэты факт замоўчваўся менавіта ў Савецкім Саюзе, таксама і ў самім горадзе. Наперакор усяму гэтаму М. Шагал заўзята маляваў віды роднага Віцебска на сваіх карцінах у далёкім Парыжы.

Здавалася б, Марк Шагал так шмат зрабіў для праслаўлення свайго горада Віцебска, што кожны чалавек з яго карцін мог пазнаць яго краявіды, вулачкі... Так жа было і ў прывезеным 9 снежня 1997 г. у Гданьск спектаклі Дзяржаўнага яўрэйскага тэатра з Варшавы „Zaczarowany świat — Chagall". З формы нарацыі Шымона Шурмея (дырэктара тэатра) можна было паняць, што Віцебск „to takie małe żydowskie miasteczko, w którym Żydzi stanowili 60 procent mieszkańców, a poza tym mieszkali tam Ukraińcy, Rosjanie, Tatarzy, Ormianie..." Ані слова пра беларусаў. Публіка так і сцяміла, што гаворыць ён недарэчнасці пра жыхароў Віцебска. Адкуль жа там украінцы?! Праўда, у міжнародным кантэксце нядрэнна, калі не вельмі адукаваны жыхар свету пачуе пра славуты горад Віцебск, які натхніў М. Шагала, а да таго яшчэ ў ім жылі украінцы. Калі ўзяць пад увагу тое, што Ш. Шурмей з гэтай п'есай аб'ездзіў кавалак свету: ЗША, Заходнюю Еўропу і ўсюды паўтараў падобныя глупствы пра „невялікае мястэчка" і ўкраінскі субстрат у ім, дык зводзіў у зман тых, якія хацелі нечага даведацца пра родны горад вядомага мастака. Па-першае — гэта не такое ўжо ж малое мястэчка. Цяпер гэта абласны цэнтр, але і ў мінулым Віцебск заўсёды быў буйным горадам — ваяводскім ці губернскім. Прытым, як памежны, часта быў прадметам змагання. Хопіць раз пабачыць Віцебск, каб зразумець яго веліч. А ўкраінцы ў Віцебску? Як адказаў Ш. Шурмей — Віцебск ляжыць на Украіне, дык хто ж там павінен жыць, як не ўкраінцы. Калі мая сяброўка, журналістка, у размове спрабавала давесці да Ш. Шурмея, што Віцебск усё ж такі ляжыць у Беларусі, той жа сказаў: „A cóż to za różnica, i tak to wszystko Rosja!".

Дзяржаўны яўрэйскі тэатр з Варшавы не быў у Гданьску дзвацаць гадоў. Зараз з нагоды 1000-годдзя Гданьска запрасіў яго сюды прэзідэнт Гданьска Тамаш Пасадзкі. Варта, каб нехта запрасіў яшчэ яўрэйскі тэатр у Віцебск. Тады можа Ш. Шурмей зразумее, якую хлусню кажа са сцэны гледачам! Шагал гэтага, пэўна, не дараваў бы.

**Лена Глагоўская**

# Пра незабыўнае

Як вядома, 26-27 ліпеня 1997 года ў Менску адбыўся Другі з'езд беларусаў свету. Сярод амаль сямісот яго ўдзельнікаў у якасці шаноўнага госця пашчасціла быць і мне.

У з'ездзе прысутнічала бадай што ўся эліта — цвет беларускай нацыі, воляй лёсу раскіданай па ўсяму Божаму свету.

Улічваючы сучасныя грамадска-палітычныя абставіны ў краіне, адметнай, неардынарнай падзеяй з'явілася выкананне (як пры адкрыцці, так і пры закрыцці з'езда) беларускага нацыянальнага гімна „Магутны Божа...", што, безумоўна, павялічыла ўрачыстасць падзеі, аздобіла з'езд і падкрэсліла яго гістарычную значнасць.

Цікавымі і павучальнымі былі выступы Волатаў Беларускага Духу і кіраўнікоў дэлегацый ад шмат якіх беларускіх дыяспар з розных краін свету.

Да скону дзён сваіх не забуду таксама грандыёзнае шэсце і мітынг, прысвечаны Дню Незалежнасці, у якім прынялі ўдзел тысячы сапраўдных прыхільнікаў дэмакратыі, у тым ліку і многія ўдзельнікі з'езда. Як відаць, ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!

Часта і заўсёды з прыемнасцю ўспамінаючы аб гэтых гістарычных падзеях у жыцці беларусаў свету, умацоўваюся ў думцы і пераконваюся, што беларускі народ не згіне. Наперакор усяму ён у рэшце рэшт адстаіць Незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны, адродзіць любую матчыну родную мову, верне свае спрадвечныя гістарычныя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Наш народ перажыве напаткаўшую яго палітычную і эканамічную непагадзь, бо над Беларуссю ўжо зазззяла святая прыкмета — нараджэнне Героя накшталт Шарамета.

Павітаць удзельнікаў з'езда і сказаць некалькі шчырых, цёплых слоў і пажаданняў планаваў і я, запісаўшыся дзеля гэтага на выступ. Аднак забракавала часу.

Паколькі лёс народа Беларусі — адны выпрабаванні, а выратаванне — у яго згуртаванні, у сваім неадбыўшымся выступе я меўся ўнесці для абмеркавання на з'ездзе прапанову аб будаўніцтве на тэрыторыі адной з суседніх краін радыёстанцыі „Беларуская крынічка".

А закончыць свой кароткі выступ спадзяваўся вось такім невялічкім і, мусіць, не зусім дасканалым вершыкам:

### Дык дакуль жа мы будзем у блудзе?

К беларускай прыроднай лагоднасці
Чалавечай каб крышачку годнасці.
Да зайздроснай яе працавітасці
Толькі б дробку тае самавітасці.

Ды вышэй каб хаця на ступень,
ну вядома ж,
Паднялася ў народа ягона
свядомасць,
Змацаваная Верай і Воляй
У змаганні з ліхою нядоляй.

Адбылася б тады рафінацыя
Беларусаў сапраўдных у Нацыю.
Чалавечней народа тады б
не знайсці,
Нат каб кулю зямную наўкол абысці!

Дык дакуль жа мы будзем у блудзе?!
Ад Сумлення залежыць тут Вашага,
людзі!
Для народа без Годнасці, Волі і Веры
Да Эдэму зямнога зачынены дзверы!

**Алесь Ляскоўскі**
**настаўнік-пенсіянер**
**в. Сучакі, Беларусь**

# Прыемна працаваць у новай школе

**97 вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, гэта не так і мала, як на нашыя ўмовы ў Нараўцы, — заяўляе дырэктар Яўген Валкавыцкі.**

Вучоба ў новай школе ў Нараўцы пачалася адразу пасля ваяводскай інаўгурацыі школьнага года. Прыгожы, добра архітэктурна прадуманы школьны будынак знаходзіцца на ўскраіне мясцовасці. У сярэдзіне многа калідораў, размешчаных на рознай вышыні. З іх вядуць уваходы ў прыгожыя, прасторныя бела-зялёныя залы. Побач залаў — настаўніцкія кабінеты. У цэнтры будынка вялікі квадратны актавы зал, вакол якога на другім паверсе можа збірацца публіка. Прасторны, прыгожа абсталяваны настаўніцкі пакой. Пра першыя ўражанні ад працы ў новым школьным будынку пытаю дырэктара Яўгена Валкавыцкага.

— Як бачыце, школа пабудавана паводле новых архітэктурных планаў. Экалагічная кацельня на газ, ва ўсім будынку ацяпленне ў падлозе. Каб вучні не коўзаліся, падлога на калідорах зроблена з тэхніфлору, а ў класах — з прастыдуру. Парты ў малодшых вучняў каляровыя, прыстасаваныя да іх росту. Што тычыцца першых уражанняў, дык і вучні, і настаўнікі, і бацькі — усе задаволены. У старой школе было многа будынкаў і цяжкія ўмовы працы, тут усё новае, прыемна і працаваць. Некалькі месяцаў таму адбылося школьнае свята — увядзенне першакласнікаў у вучнёўскую сям'ю. Мерапрыемства арганізаваў школьны самаўрад, але былі і бацькі першакласнікаў. У гэтым годзе два першыя класы, у якіх 39 вучняў.

— Такі прыгожы будынак, ці не меншае хаця колькасць вучняў? — пытаю дырэктара. Цяпер жа пусцеюць беларускія вёскі.

— Вучняў у нас яшчэ многа, — гаворыць спадар Яўген Валкавыцкі. — Закрылі летась школу ў Лешуках, адтуль у нашу школу перайшло 30 вучняў. Маглі яны вучыцца ў Ляўкове, але выбралі нашу школу. Цяпер у нас 391 вучань, якія вучацца ў 18-ці аддзелах. Працуе з імі 31 настаўнік. Раней у школе быў адзін аўтобус. Цяпер два аўтобусы прывозяць і адвозяць дзяцей з Масева, Лешукоў, Скупава, Плянтаў, Міклашэва і Альхоўкі. Другі аўтобус дазваляе вучням хутчэй вяртацца дамоў.

— У Нараўчанскай гміне вельмі прыгожая беларуская дыялектная мова, амаль супадае з літаратурным варыянтам, — раблю заўвагу. — Ці многа дзяцей вывучае беларускую мову ў Вашай школе?

— На занятку беларускай мовы ходзіць 97 вучняў.

— Якая прычына, што так мала?

— Я заўсёды гавару, што 97 вучняў, якія вучацца беларускай мове, гэта не так і мала, як на нашыя ўмовы ў Нараўцы, — заяўляе дырэктар Яўген Валкавыцкі. — У нас у школе 130 вучняў-католікаў, а калі адкінуць вучняў з першага і нулявога класаў, у якіх беларускай мовы яшчэ няма, дык атрымліваецца, што кожны другі праваслаўны вучань вучыцца роднай мове.

— Яшчэ хіба ідзе пабудова гімнастычнай залы? — пытаю на заканчэнне.

— Канчаем пабудову сталовай і да чэрвеня наступнага года плануем закончыць будову гімнастычнай залы. У нас самаўрад вельмі прыхільны школе і ёсць ужо планы пабудовы ў нас крытага басейна. Гавораць, што гэта дарагая інвестыцыя, але ж ці можна пералічваць здароўе жыхароў на грошы. Басейнам маглі б карыстацца не толькі вучні.

У кастрычніку мінулага года з бюджэтнага рэзерву прызначана чатыры-ста тысяч злотых на заканчэнне будовы школы ў Нараўцы.

**Аляксей Мароз**

# Змаганні юных тэнісістаў

Нагодай для праверкі сваіх магчымасцей і сустрэчы з аднагодкамі стаў Індывідуальны турнір настольных тэнісістаў на кубак дырэктара Гміннага асяродка культуры ў Дубічах-Царкоўных, які праводзіўся 18 снежня 1997 года. У спаборніцтвах змагаліся 16 дзяўчат і 23 хлопцы з сямі школ Гайнаўскага раёна. Апекунамі паасобных груп былі: дубіцкай — Уладзімір Місяюк, старакорнінскай — Вінцэнт Мартынюк, махнацкай — Галіна Парфянюк, навакорнінскай — Славамір Кулік, ласінскай — Яўген Кавальскі, дубінскай — Міраслаў Койла і чаромхаўскай — Міраслаў Філіманюк.

Арганізатары турніру падбалі пра абеды, узнагароды, кубкі і дыпломы для ўдзельнікаў. Узнагароджваліся пераможцы да шостага месца. У групе дзяўчат найлепшымі аказаліся: Юстына Тамчук (Стары Корнін), Юстына Супрунюк, Анна Каралько, Бэата Мінько (усе з Ласінкі), Кацярана Ляўчук (Дубічы-Царкоўныя) і Данута Савеіч (Ласінка). Сярод хлопцаў у групе найлепшых апынуліся: Андрэй Кашушэўскі (Дубічы-Царкоўныя), Андрэй Кубайчук (Махнатае), Кшыштоф Колтак (Чаромха), Марк Кірызюк, Андрэй Трафімюк (абодва з Дубіч-Царкоўных) ды Адам Баркулак (Чаромха). Спаборніцтвы аматараў пінгпонга аказаліся цікавай сустрэчай, якая паспрыяла наладжанню новых знаёмстваў і далейшага супрацоўніцтва. Вясною прадугледжваюцца чарговыя турніры — футбольны і гандбольны.

**Славамір Кулік**

# Выстаўка ў беластоцкай ратушы

Беластоцкі акругова музей наладзіў у гарадской ратушы выстаўку „Ад табакеркі да папяросы". На ёй паказаны сабраныя з другіх польскіх музеяў і ад прыватных асобаў розныя прылады, з дапамогаю якіх людзі насалоджваліся ўсялякім дымам. Многія з іх, гэта сапраўдныя шэдэўры, якія і выконваліся невядомымі майстрамі дзеля таго, каб іхныя паны маглі тыя вырабы падарыць важным ім асобам. Прыкладам такога вырабу з'яўляецца ажурная армянская сярэбраная цыгарэтніца. Уражваюць таксама і велізарныя люлькі з цыбуком амаль метровай даўжыні і з коўшыкам паўлітровай аб'ёмістасці... Паказана многа: не толькі „звычайныя", фантазійна разьблёныя люлькі, але і вадзяныя паўднёваазіяцкія люлькі ды індакітайскія люлькі для курэння опію. Ёсць там яшчэ і табакеркі, і капшукі, і ... простая франтавая цыгарэтніца савецкага салдата з чэрвеня 1944 г. з выгравіраваным штыком надпісам. На сценах карціны з усяго свету са сцэнамі курэння, а таксама і кардонныя каробкі з-пад папяросаў з інфармацыйным зместам; на адной з іх, з 1949 года інфармуецца пра „miesiąc pogłębiania przyjaźni polsko-radzieckiej". Адным словам — ёсць на што паглядзець.

**(ав)**

# Белавежа на старых здымках

У палове студзеня 1998 года ў галерэі „О-ВОК" Белавежскага дома культуры адкрыецца выстаўка „Белавежа на старых здымках", падрыхтаваная Анджэем Кэчынскім, які ў Белавежскім нацыянальным парку вядзе іканаграфічны архіў. Пабачым на ёй м.ін., як выглядала мясцовасць і яе жыхары ў XIX ст., затым спаленую ў I сусветную вайну Заставу і даваенную пасеку з борцямі ў падбелавежскіх Будах. На частцы здымкаў адлюстраваны палац і прывітанне белавежцамі цара Мікалая II. З міжваеннага перыяду паглядзім святкаванне дажынак, зірнем на пабудову рымска-каталіцкага касцёла ды заглянем у майстэрню вядомага ў той час краўца Купрыянава.

Выстаўка будзе працаваць ад 10 да 16 гадзіны штодзённа. Уваход бясплатны. Фотавыстаўка прымеркавана да святкавання 400-годдзя Белавежы.

**Пётр Байко**

# „Каралеўства Беларусі"

Пад такім загалоўкам у аўторак, 9 снежня 1997 г. адкрылася ў Гданьскім універсітэце выстаўка сучаснага беларускага мастацтва. У Гданьск прывезла яе Анна Ракоўска з Культурнай праграмы Фонду імя С. Баторыя. Раней можна было яе пабачыць у Варшаўскім універсітэце і ў асяродку культуры ў Падкове-Лесьнай. Ініцыятарамі выстаўкі і наогул акцыі „Каралеўства Беларусі" былі фонд „Наша ніва" з Менска і Пётр Міцнэр з Асяродка культуры ў Падкове-Лесьнай. Фінансавую дапамогу аказаў Фонд імя С. Баторыя. Арганізатары выстаўкі намагаюцца паказаць яе найшырэйшаму кругу маладых гледачоў, таму і праводзіцца яна ва універсітэтах, а не галерэях. Загаловак, узяты з апавядання Мар'яна Брандыса, спалучае новае „посткаланіяльнае" — бо створанае пасля распаду Савецкага Саюза — мастацтва (фатаграфія, інсталяцыі, графіка, жывапіс) з нонканфармізмам і пошукамі індывідуальнага стылю.

Выстаўку адкрыў дэкан філалагічна-гістарычнага факультэта Гданьскага універсітэта праф. Ян Ілюк. Расказаў ён прысутным як дайшло да рэалізацыі выставы: „Gdy slyszę Białoruś, to się rozklejam", — законны эмацыянальным акцэнтам дэкан. Дарэчы, хаця сам ён нарадзіўся ўжо ў Польшчы, яго бацька родам з вёскі Барані (цяпер Астравецкага раёна). Ён блізка знаёмы з сям'ёй Стаповічаў. Сапраўды, прыхільнасць і сімпатыя праф. Яна Ілюка дапамагла арганізаваць выстаўку ў Гданьскім універсітэце без перашкод і ў надзвычай хуткім часе.

На жаль, на адкрыццё выстаўкі не змаглі прыехаць мастакі. Прысутны быў толькі Вацлаў Арэшка з Фонду „Наша ніва". І так выстаўка сучаснага беларускага постсавецкага мастацтва зацікавіла не толькі студэнтаў, але мясцовыя сродкі масавай інфармацыі.

Што тады там цікавае? Вось, напрыклад, фатаграфіі Алены Адамчык ці Ігара Саўчанкі, афорты Дзмітрыя Лоікіцца, жывапіс з чашамі Юрыя Дарашкевіча, „Шэсце адзінарогаў" (графіка) Андрэя Басалыгі, пластычныя аб'екты Сяржука Бабарэкі („Радыёфакт"), ці ўрэшце жывапіс і катафалькі Артура Клінава (аўтара „Чаепития" з А. Лукашэнкам).

Разнастайнасць форм мастацтва на выстаўцы адназначна паказвае магчымасці маладых беларускіх мастакоў, якія праз свае працы ўводзяць Беларусь у Еўропу.

Да выстаўкі выдадзены адмысловы каталог і плакат. Самая выстаўка ў Гданьскім універсітэце закончылася 20 снежня і супала з заканчэннем занятка ў у студэнтаў. Пасля, магчыма, працы паедуць у Шчэцін і ў Беласток.

**Лена Глагоўская**

# Камп'ютэры ў бібліятэцы

Бібліятэкай у Дубічах-Царкоўных кіруе Міраслава Семянюк-Мараўская. Падначалены ёй адзіны ў гміне філіял у Старым Корніне. Кнігазборамі абедзвюх бібліятэк (11 тысяч тамоў) карыстаюцца 233 чытачоў, у тым ліку 50 у філіяле.

Апошнім часам кнігазбор папаўняўся кнігамі для вучняў сярэдніх школ. Ад двух гадоў можна пазычаць яшчэ відэакасеты з фільмамі (17 паасобнікаў) на аснове твораў, якія разглядаюцца на ўроках польскай мовы.

У бібліятэцы знаходзяцца беларускія кніжкі, але няма сярод іх навейшых выданняў. Бібліятэка да гэтай пары выпісвала 12 найменняў перыядычных выданняў, а са студзеня гэтага года павялічыла іх колькасць да пятнаццаці. На жаль, сярод іх няма ні беларускіх, ні рэгіянальных газет. Летась на закупку кніжак было выдадзены 5 тысяч злотых, і гэта не зусім так мала як на вясковыя ўмовы.

Найбольшую частку карыстальнікаў складаюць вучні падставовых і сярэдніх школ. Самай пажылой чытачкай з'яўляецца 92-гадовая Анастасія Рута з Дубіч-Царкоўных, якая ў сярэднім пазычае каля 10 кніжак у месяц. Жанчыны аддаюць перавагу раманам, а мужчыны — дэтэктывам. У старкорнінскім філіяле дзеці ахвотна чытаюць беларускія кніжкі.

У снежні мінулага года ў бібліятэцы стала працаваць Кацярына Дзямянюк з Тафілаўцаў, інвалід, і ў сувязі з гэтым бібліятэка атрымала два камп'ютэры. У недалёкім будучым абедзве бібліятэкаркі плануюць арганізаваць для дзяцей занятки з камп'ютэрамі (у школах на тэрыторыі гміны камп'ютэраў няма). Дзеці і моладзь праяўляюць вялікае зацікаўленне інфарматыкай і цешацца, што стварылася ім магчымасць пазнаёміцца з камп'ютэрнай тэхнікай.

**Славамір Кулік**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Першы раз

Сані сунуцца па снезе,
Конік фыркае пад нос
І шчыпае ў твар і лезе
Ў рукавічкі пан мароз.

Конік босы, хоць падковы
Каваль яму накаваў.
Лыску ў першы шлях зімовы
Дзед Іван у лес забраў.

Першы раз надзеў ён бомы
І званочак пры дузе.
І не думае пра стому,
Бо шчаслівых нас вязе!

**Міра Лукша**



*Перад пастаноўкай п'есы „Птушыны Сойм".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Міфы старой Беларусі

**15. Жыцень**

Жыцень — бог восені. Беларусы ўяўлялі яго крыху грозным, вечна нейкім незадаволеным. Жыцень нізкага росту, худы, сталага веку, з трыма вачамі (трэцяе на патыліцы). Паходка ў яго ціхая, галава пакрытая ўскудлачанымі доўгімі валасамі. Звычайна абходжваў ён палі і агароды і пільнаваў парадку. Калі Жыцень знаходзіў на жніўніку непрыбраныя каласы, збіраў іх і, звязаўшы ў адзін сноп, пераносіў яго на жніўнік, дзе сабрана ўсё дакладна, ашчадна. У выніку ў наступным годзе нядбайнага гаспадара чакаў неўраджай. Тое ж было і з агародамі. Убачыўшы гаспадара агарода, Жыцень падыходзіў да яго і гразіў яму пальцам, што абазначала неўраджай. На Беларусі верылі нібыта Жыцень з'яўляецца ў выглядзе жабрака. З'яўленне бога прадвяшчала голад ці вялікі неўраджай. Гаспадары такім чынам мелі магчымасць падрыхтаваць запас збожжа ці агародніны на неўраджайны час. Паводле веранняў, Жыцень прысутнічае ў полі пры восеньскай сяўбе. Ён ходзіць з грозным выглядам па пасеяным жыце і прыглядаецца да чагосьці ў нізе, утоптвае зерне. У народзе вядомыя прымаўкі: „Жыцень хлеба даў", „Жыцень з кабзой, голад на двор".

## Год такі, як варажбы

У ноч з 13 на 14 студзеня, паводле юліянскага календара, пачынаецца Новы год. З гэтым святам звязана многа розных абрадаў.

Напрыклад, дзяўчаты ноччу выходзілі на двор і кожная з іх па чарзе крычала. Там, дзе адазвалася рэха, у гэтую старану дзяўчына пойдзе замуж.

Варажылі таксама з дроў. Дзяўчаты бралі столькі полен, колькі маглі абняць рукамі. Потым лічылі іх. Калі было іх — 2, 4, 6..., тая асоба будзе мець мужа або жонку, калі было іх — 3, 5, 7 ... — застанецца адна. Потым трэба было іх спаліць, але кожнае палена ў іншай печы.

Падобна варажылі ля плота суседа. Тады абымалі рукамі як найбольш астракол і лічылі іх, кажучы:

— дзяўчаты: малады, удавец, малады...;

— хлопцы: маладая, удава, маладая...

У час, калі дзеўкі варыжылі, хлопцы здымалі брамы, дзверы ад хлявоў і хавалі. У Новы год гаспадары шукалі іх і найчасцей знаходзілі іх у лесе, над ракой, у суседа або на польнай дарожцы.

На Новы год калядавалі. За калядку спевакі атрымоўвалі святочную кішку. Калі гаспадар не „заплаціў" за калядку, наступнага дня знаходзіў свой воз, напрыклад, на хаце.

Вечарам у вёсцы была забава. Арганізавалі яе ў найстарэйшых гаспадароў і маглі прыйсці тут толькі маладыя дзяўчаты. Замужнія аглядалі ўсё з-за вокан.

У Новы год гаспадар запрашаў гасцей. Традыцыя гаворыць, што такі будзе год, які прыйдзе дадому госць. Тое, які будзе год залежала яшчэ ад надвор'я. Калі ішоў снег і трымаў мароз, увесь год мелі добра несціся куры. Калі было пахмурна — мела быць многа малака.

Навагоднія абрады здзяйняліся або і не, але людзі заўсёды ў Новы год варажылі і рабілі тое згодна абрадам.

**Марыля БЕНЯДЗЮК**
**ПШ у Бельску-Падляшскім**

## Пра старога ката

*(беларуская народная казка)*

Жылі сабе дзед ды баба. І быў у іх кот стары-стары, што не ўздолее і мыш злавіць. Вось дзед і гаворыць:

— Што нам гэтаму кату зрабіць? Давай мы адвядзём яго ў лес: няхай дарма хлеба не есць.

— Ну, давай!

Адвезлі яны ката ў лес і кінулі там. Ідзе кот па лесе і плача. Бяжыць лісіца. Убачыла ката, прыбегла к яму дый кажа:

— Куды ідзеш, коця?

— А жыў я ў дзеда і ў бабы, ды як састарэўся, яны мяне завезлі ў лес і кінулі!

— Давай з табой, коця, пажэнімся!

І пажаніліся лісіца з катом. Павяла тады яна ката ў сваю хату, і сталі яны ў хатцы жыць. Бяжыць па лесе мядзведзь: трэсь-лом, трэсь-лом, трэсьлом! Выбегла лісіца з хаткі.

— А хто ў маім ляску трашчыць? У майго дзядышча хвост з памялішча: як вылезе, дык і цябе завалачэ!

Спужаўся мядзведзь і пабег. Бяжыць па лесе воўк: трэсь-лом, трэсьлом, трэсь-лом! Вылезла лісіца са сваёй хаты і кажа:

— А хто ў маім ляску трашчыць? У майго дзядышча хвост з памялішча: як вылезе, дык і цябе завалачэ!

Спужаўся воўк і пабег. Бяжыць дзік па лесе: трэсь-лом, трэсь-лом, трэсьлом! Выбегла лісіца са сваёй хаты.

— Хто гэта ў маім ляску трашчыць? У майго дзядышча хвост з памялішча: як вылезе, дык і цябе завалачэ!

Спужаўся дзік і пабег. Бяжыць па лесе заяц: трэсь-лом, трэсь-лом, трэсьлом! Выбегла лісіца са сваёй хаты.

— А хто ў маім ляску трашчыць? У майго дзядышча хвост з памялішча: як вылезе, дык і цябе завалачэ!

Спужаўся заяц і пабег. Сабраліся яны ўсе ў кучку: мядзведзь, воўк, дзік і заяц — сабраліся і гавораць:

— Як нам яе мужыка паглядзець? Ну-ка, збяром абед. Ты, мядзведзь, ідзі па мёд, а ты воўк, ідзі па мяса, а ты, дзік, ідзі па сала, а ты, заяц, па хлеб!

Пайшлі яны збіраць абед: мядзведзь прыносіць калоду з мёдам, воўк мяса, а дзік сала, а заяц хлеба. Прынеслі ўсё і сталі абед збіраць. Прыгатавалі абед.

— Ну, каму ж ісці па іх? Ідзі ты, мядзведзь!

— Не, я лемехават!

— Ну, ідзі ты, воўк!

— Не, я неўваротак!

— Ну, ідзі ты, дзік!

— Не, я не шывдак!

Прыходзіцца зайцу бегчы. Падбег заяц да нары і кажа:

— Добры дзень! Прасілі бацька і матка, каб вы ласкавы былі, к нам на абед прыйшлі, хлеба-солі з'елі, чарку гарэлкі выпілі!..

Ды сам як мага хутчэй назад! Прыбег заяц дамоў. Паставілі яны хутчэй усё на стол, а самі пайшлі і пахаваліся: мядзведзь на дубе, воўк пад куст, дзік у мох, заяц у крапіву — і сядзяць. Прыходзяць кот ды лісіца на абед, бачаць — нікога няма. Селі яны за стол і пачалі абедаць. Кот убачыў, што дзік хвастом махае ад мух. Падумаў ён, што гэта мыш, ды як скокнуў і лапамі за хвост! Вось дзік як усхопіцца ды як пабяжыць! А мядзведзь як убачыў гэта — ды з дуба, ды на ваўка, ды драла! А заяц за імі! Бягуць, аж пыл стаўбом! Тады лісіца кажа кату:

— Дурны ты, кот! Нашто ты іх чапаў? Мы ж бы яшчэ не раз добра ў іх паабедалі.

*Малюнак Тамашы ДЗЕМЯНЮКА*



# Францыск Скарына

## альбо Як да нас прыйшла кніга

*(працяг; пачатак у 47 н-ры)*

**Пергамен**

у нас яшчэ называлі „скура". Бо гэта сапраўды была скура, звычайна маладой жывёліны, цяляці, ягняці ці казляняці.

Адзін старажытнарымскі гісторык перадае такое паданне аб тым, як вынайшлі пергамен. У горадзе Пергаме нібыта захацелі стварыць бібліятэку, якая зацьміла б славу александрыйскай у Егіпце. Александрыйская была тады найбагацейшая ў свеце — у ёй налічваліся тысячы і тысячы розных кніг. Егіпецкі цар, дачуўшыся пра гэта, забараніў вывозіць папірус у суседні Пергам. Але майстры горада знайшлі выйсце. Яны пачалі выраблядь скуры так, каб на іх можна было пісаць. Дзякуючы гэтаму ў Пергаме была створана вялізная бібліятэка. А новы пісьмовы матэрыял нібыта з той пары пачаў называцца ад імя горада — „пергамен".

Атрымлівалі яго так: у вялікіх драўляных ці каменных начыннях з вапнянаю вадой замочвалі шкуры і трымалі там да таго часу, пакуль з яе не злазіла поўсць з аднаго боку, а з другога — рэшткі мяса і тлушчу. Тады скуру мылі і распіналі на драўляных рамах сушыцца на сонцы. І сачылі, каб яна не перасохла. Пасля цяжкім жалезным нажом скрэблі яе, аж пакуль яна не танчэла, тады гладзілі пемзаю і выбельвалі мелам або свінцовымі бялілами з яечным бялком, якімі націралі скуру з абодвух бакоў. Так скура канчаткова абястлушчвалася.

Хоць выраб пергамену адбіраў шмат часу і працы, затое атрымліваўся адмысловы матэрыял для пісьма — трывалы, гладкі, гнуткі, ды і непразрысты — пісаць на ім можна было ўжо з абодвух бакоў. Адно толькі бок, дзе была поўсць, выглядаў крыху цямнейшым і шурпатым.

Дзякуючы таму, што на пергамене пісалі з двух бакоў, у невялікай кнізе цяпер змяшчаўся тэкст, які раней вымагаў доўгага скрутка-сувою або нават некалькі сувояў. Прытым гэтую кнігу лёгка было гартаць адною рукою.

Цяпер і назва твора канчаткова перайшла ў пачатак кнігі. Бо раней — у папіруснай — назва твора падавалася ў самым канцы: пачатак кнігі заўсёды хутчэй нішчыўся, хоць у яго і быў, як вы памятаеце, спецыяльны ахоўны першы аркуш, на якім нічога не пісалі. Пазней, праўда, назву ў папірусах змяшчалі ў пачатку, але ўсё ж скарочана. А ўвогуле назва ў папірусцай кнізе з'явілася досыць пазнавата: спярша проста называлі толькі імя аўтара і першае слова рукапісу. Калі ж папірус захоўваўся ў збане ці ў скрынцы, дзе іх было некалькі, да кожнага рукапісу прывязваўся надпіс з тытулам кнігі...

У пергаменнай кнізе з часам пачалі нумараваць аркушы, але яшчэ не старонкі. І ўсё ж у такой кнізе стала лягчэй арыентавацца: ведаючы аркуш, хутка можна было цяпер знайсці патрэбную думку, выказванне. Папірус меў сваю прыродную „разліноўку" — пражылкі, уздоўж якіх і выцягваліся радкі рукапісу. З пераходам на пергамен даводзілася старонкі спецыяльна разліноўваць. Для гэтага пачалі ўжываць розныя пісчыя палачкі, у тым ліку алавяныя (адсюль назва нашага алоўка). Дарэчы, яшчэ старажытныя егіпцяне пісалі кавалачкамі волава на папірусе.

Для разліноўкі пергамену добра прыдаваўся і грыфель. Лінія радка адціскалася ім адразу і на адным і на другім баку аркуша.

*(працяг будзе)*

**Анатоль Клышка**

# Крыжаванкі

## Польска-беларуская крыжаванка № 1

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wyrzut / Korowód | ▼ | Kula / Rada | ▼ | Cichy szum / Gaz | ▼ | Los | Piękno | ▼ |
| ▼ | | ▼ | | ▼ | | ▼ | Zakątek | |
| Rąbek zszywki ▶ / Rok | | | | | | | ▼ | |
| ▶ | | | Zulus ▶ | | | | | |
| Cios ▶ | | | | Mięta ▶ | | | | |

## Крыжаванка № 2 Дароты Юшчук

Запоўніце клеткі словамі паводле значэнняў. У клетках з шэрым полем вы атрымаеце лозунг.

1. Пара дня.
2. З яе будуюць дом.
3. Клічка сабакі.
4. Марка трактароў, якія выпускае завод пад Варшавай.
5. З зярнятамі.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

**Адказ на крыжаванкі н-р 49:**

Польска-беларуская крыжаванка: эра, хор, дама, рэха, Ром, мара.

Лозунг крыжаванкі Ані КРУК: **Лістапад.**

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Аня Галёнка** з Пасечнікаў-Вялікіх, **Андрэй Пракапюк** з Грабаўца, **Ева Русіновіч** з Нарвы, **Альжбета Алексяюк** з Дубяжына, **Аня Каліноўская** з Махнатага, **Ева Крупіцкая** з Бельска-Падляшскага, **Нэля Себятынюк** з Казлоў, **Аня Васілюк** з Відава і **Юліта Харытанюк** са Старога Корніна.

**Віншуем!**

Узнагароды можна атрымаць у рэдакцыі або чакаць іх у сваёй школе.

# У майстэрні жывапісца



Ужо чарговы раз арлянскія другакласнікі сустрэліся з карэспандэнтам „Нівы". Зразумела, тыя, што ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Разам са сваёй настаўніцай Яўгеніяй Тхарэўскай завіталі яны ў майстэрню Міхала Мінцэвіча.

Там маладыя наведвальнікі пабачылі шмат копій карцін. Сярод іх былі творы беларускіх жывапісцаў. Шырокае месца было адведзена копіям рускага жывапісца Івана Шышкіна. Дзеці паглядзелі і аўтарскія працы ніжэйпадпісанага.

Пазней другакласнікі знаёміліся з гісторыяй беларускага пейзажа і агледалі каляровыя альбомы: „Беларускі савецкі жывапіс", „Дзяржаўны музей БССР", „Пластыка Беларусі XII—XVIII ст.ст."

Здаецца, тэма зацікавіла дзяцей. Вельмі пра беларускі жывапіс напэўна падмацуюць зацікаўленне для вывучання роднай мовы. Дзеці ставілі многа пытанняў. Найбольш зацікавіў іх, што мяне асабіста цешыць, беларускі пейзаж.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Вясёлы куточак

— Сыночак, — кажа маці, — я столькі разоў цябе прасіла, каб ты ўступаў гэтым жулікам і не біўся з імі, а ты зноў прыходзіш дадому з сінякамі!..

— Я ім уступіў, толькі яны мяне дагналі.

* * *

— Каго больш любіш: татку ці мамку? — пытае бабуля ўнука.

— Татку.

— А чаму?

— Бо татка радзей бывае дома.

* * *

— Чаму твая работа пра малако такая кароткая? — пытае настаўніца вучня.

— Бо гэта кандэнсаванае малако.

* * *

— Кавальскі! — звяртаецца настаўніца да вучня, — чаму твой бацька не падпісаўся пад маёй заўвагай у сшытку? Там жа выразна напісана: „Вучань няўважлівы і заўсёды губляе свае школьныя прылады". Паказаў гэта бацьку?

— Паказаў.

— Дык чаму бацька не падпісаў?

— Бо бацька згубіў сваю ручку.

* * *

Андрэйка дастаў ад бацькі лупцоўку за паводзіны. Сядзіць у куточку ды ціха паплаквае.

— Так вельмі баліць? — літуецца над унукам бабулька.

— Не. Толькі тата паскам паламаў мне ўсе папяросы, што былі ў маёй задняй кішэні.

* * *

— Мамачка, чаму ў гэтай краме ўсю ноч гарыць святло?

— Гэта з увагі на зладзеяў.

— То яны нават ліхтарыка не маюць?

* * *

— Не разумею, як адзін чалавек можа нарабіць столькі памылак! — папракае настаўніца вучня, аглядаючы яго дамашнюю работу.

— Чаму адзін? — абураецца вучань. — Гэта пісаў я разам з таткам.

* * *

— Скажы мне, — звяртаецца святчэннік да вучня, — што ты робіш, калі нехта цябе ўдарыць па шчацэ?

— Паводле вашай навукі, ці ў сапраўднасці?

* * *

— Татка! Коля сказаў, што я падобны на цябе.

— Ну і што ты зрабіў?

— Нічога, бо ён дужэйшы за мяне.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**



Талон „Зоркі" № 2
11.01.1998

# „Навучыўся радавацца чужой радасці...”

## *Лісты Міхася Забэйды-Суміцкага да Максіма Танка*

***(працяг; пачатак у 46 н-ры за 1997 год)***

Прага, 19.1.1967.

Дарагі Максіме!

Вельмі не хацелася Цябе турбаваць, ведаючы, як Ты заняты, але думаю, што гэта справа будзе Цябе цікавіць.

Тут можна зрабіць доўгаграючую пласцінку беларускіх песень-рамансаў. Трэба толькі забавязацца купіць каля 600 гэтых пласцінак.

Мне сказалі, што Савецкі Саюз кожны год купляе ў Чэхаславакіі каля 200 000 пласцінак, дык на Ваша жаданне (жаданне Беларусі) лёгка можа ўключыць у гэту лічбу 600, а нават і больш пласцінак з беларускімі песнямі.

Тут вельмі добрая тэхніка, а я пастараюся заспяваць нашы песні як найлепш.

Пішу аб гэтым і Рыгору Раманавічу, якога гэта павінна цікавіць як старшыню Саюза кампазытараў Беларусі.

Чакаю хуткага адказу, каб паспеў гэта зрабіць пакуль жыву.

Будзь здароў, дарагі Максіме, і не сярдуй, што Цябе турбую.

Прывітанні сябрам.

Твой Міхась Забэйда.

* * *

Прага, 10.9.67.

„Чулліваю душой паэта
чытаеш Ты і між радкоў”.

Дарагі Максіме!

Моцна мяне абрадавала і маральна падтрымала Тваё апошняе харошае, сяброўскае пісьмо. Атрымаўшы яго, яшчэ з большай энергіяй аддаўся працы падрыхтоўкі новае доўгаграючае плітки. Не было гэта лёгка, а доктар казаў, што для здароўя нават і небяспечна. Але роды, хоць і цяжкія, адбыліся: нарадзілася новая беларуская плітка. 6 і 8 верасня наспяваў наступныя песні і рамансы:

1. М. Аладаў: Сасонка, словы: Я. Купала.
2. М. Аладаў: Лета, словы: Я. Купала.
3. М. Аладаў: Накцюрн, словы: П. Трус.
4. П. Падкавыраў: Ходзіць дзеўчына па воду, словы: А. Русак.
5. А. Спаскі: Ноч, словы: М. Багдановіч.
6. М. Чуркін: Ты прыйдзі, словы: Я. Купала.
7. А. Туранкоў: Вечар, словы: А. Гурло.
8. А. Туранкоў: Летам за парканы, словы: М. Танк.
9. А. Туранкоў: Лета, словы: Ф. Чарнушэвіч.
10. А. Туранкоў: Слуцкія ткачыхі, словы: М. Багдановіч.
11. А. Туранкоў: Маладыя гады, словы: М. Багдановіч.
12. М. Забэйда: Ціха, так ціха, словы: М. Танк.
13. В. Алоўнікаў: Па-над лесам, словы: А. Русак.
14. Гр. Пукст: Любы мой, прыйдзі, словы: М. Машара.
15. К. Галкоўскі: Ці грэх цябе любіць? словы: Зм. Бядуля.
16. А. Багатыроў: Пад цёмным ляском, словы: П. Глебка.
17. К. Галкоўскі: Маладая Беларусь, словы: Я. Купала.

Дзякуй адпаведным добрым людзям, якія зразумелі, што мастак не жыве вечна, і памаглі правесці найгранне цяпер, не чакаючы фармальнага заказу. Думаю, што справа новае пласцінкі парадуе ўсіх, хто любіць прыгожыя песні, і таму варта было б зрабіць аб гэтым абвестку ў друку.

„Полымя” чытаю ўвесь час. Шкада, што Ты з ім развітаўся. (Тыраж яго пайшоў уніз).

Тваё „Лісткі календара” чытаў з вялікім зацікаўленнем і хваляваннем. Усё гэта мне вельмі блізкае. Перажываў з Табою і сум, і радасці. Дзякуй, што ўспомніў добрым словам і пра мае песні.

З пісем і друку (прэсы) бачу, як мы ганарымся мінулым. Гэта добра, але трэба памятаць, што справы сянняшняга і заўтрашняга дня яшчэ важнейшыя, чым мінулае.

Не хачу забіраць Твайго часу, дык трэба канчаць.

Дарагі Максіме! Дажываеш да дзвюх пяцёрак. Сардэчна віншую, абдымаю, цалую. 17-га вып'ю за тваё здароўе. „Хай шчасцем напоўніцца сэрца Тваё, як кубак крыштальны віном”.

Шчырыя прывітанні Табе з сям'ёй і ўсім, хто любіць нашу песню, мову, Радзіму.

Твой Міхась Забэйда.

* * *

Прага, 20.3.70

Дарагі Максіме!

Мне пішуць, што Ты „нядаўна загрыпаваў”. Пра мяне ж тут гавораць, што прыношу людзям шчасце, таму пішу Табе, каб Ты хутчэй выздаравеў. Перажыўшы ўлетку другі інфаркт, навучыўся цаніць здароўе. І хоць хадзіць магу толькі памалу, спяваю зноў з поспехам. У мінулым годзе за свае спевы атрымаў прэмію і быў узнагароджаны медалём. Але ведаю, што кожнае выступленне можа быць апошнім. Мне ж 14.6. г.г. будзе 70 (калі дажыву).

Ці атрымаў Ты маё пісьмо, пісанае 18.1.1968 г.? Адказу ад Цябе я не дачакаўся. Калі знойдзеш магчымым, напішы. Бывай здароў! Прывітанні сям'і і супольным знаёмым.

Твой М. Забэйда.

***(працяг будзе)***

# На падарунак у багаты вечар

На падарунак у багаты вечар дачцэ ці сыну (асабліва — калі яны ўжо ліцэісты) прапаную кніжку **„Dzieje myśli” Яна Тамкоўскага***, якая стала сенсацыяй вялікага кніжнага кірмашу, што адбыўся мінулым летам у Беластоку. Мэтай кірмашу было супрацьставіцца камерцыялізацыі рынку і паказаць сапраўды добрую кніжку. Узнагароджанае выданне „Dzieje myśli” — гэта выдавецкая пазіцыя, каля якой нельга прайсці абыякава.




Дзеі думкі на працягу тысячагоддзяў прадстаўлены тут амаль у энцыклапедычным парадку, не з'яўляючыся ў той час сухой лекцыяй, а як бы каляровым апавяданнем пра гісторыю і філасофію, поўным цікавейшых дробных фактаў, не заўсёды вядомых шырокаму колу чытачоў.

Гісторыя думкі, пачынаючы ад старажытнасці, праз розныя філасофскія плыні — ад творцаў дэмакратыі да прадстаўнікоў таталітарных поглядаў — адрасуецца перш за ўсё моладзі, цікаўнай свету.

Прытым — што вельмі важнае — аўтар не накідае чытачу кірунку думкі, а ў кожнай справе прадстаўляе самыя розныя погляды. Вось як, напрыклад, прадстаўлены погляды філасафаў пра Біблію:

**Аўгустын:** кніга, аўтарам якой з'яўляецца Дух Божы.

**Паскаль**: найбольш верагодная гісторыя.

**Лютэр:** нідзе Бог не ёсць больш прысутны, чым у Бібліі.

**Вальтэр:** гэта кніга прынесла на зямлю няшчасце.

**Спіноза**: збор анекдотаў для прастачкоў.

**Ніцшэ:** ніводная іншая кніжка не чыталася ахвотней і ніводная не прынесла больш зла.

Ужо Сакрат у старажытнасці замяніў філасофстваванне у публічную дзейнасць. І сапраўды, як жа многія думкі старажытных вучоных актуальныя ў нашыя дні.

Пра ідэальны грамадскі лад, ідэальную дзяржаву, якой кіруюць **высакародныя і адукаваныя людзі,** марылі утапісты 16—17 ст.ст. (Мор, Кампанела, Бэкон). Але вось ужо ў 19 ст. Алексіс Токвіль сцвярджае: **„Дэмакратыя не заўсёды прыводзіць да свабоды”.**

Яшчэ ў 18 ст. французскі вучоны Мантэск'е, піянер сучаснай палітычнай і юрыдычнай думкі, высунуў погляд, што **як суддзя, так і член урада,** якому належыць выканаўчая функцыя, **не можа адначасова ствараць уставы.** Зараз спасылаліся на яго ў 18 ст. і польскія рэфарматары (Ст. Канарскі, Гуга Калантай, Ст. Сташыц), сам Мантэск'е не шкадаваў палякам горкіх слоў праўды, лічачы *Rzeczpospolitą Obojga Narodów* **дзяржавай, у якой найфальшывей разумеецца слова свабода**.

Напалеон, гэты геній стратэгіі, стварыў грамадзянскі кодэкс (Кодэкс Напалеона, 1804 год), які адкрыў новую эпоху ў галіне юрысдыкцыі. Ён аб'яўляў роўнасць кожнага грамадзяніна перад законам, свабоду сумлення і веравызнання, прызнанне і ахову прыватнай уласнасці, санкцыянаванне цывільнага шлюбу, права на развод. Не прадугледзеў, аднак, поўнага раўнапраўя мужчын і жанчын, што ў апошнія дні праявілася і ў нас вельмі выразна.

У кожнай галіне (калі мы чытаем пра творцаў розных рэлігій, пра астраномаў, падарожнікаў ці пра тэорыю рэвалюцыі, а нават пра вядомых пісьменнікаў, як Дастаеўскі, Талстой) можна знайсці весткі, якія кожны чытач выкарыстае для сябе.

Найбольш парадаксальныя думкі Фёдара Дастаеўскага:

**Папа — правадыр камунізму.**

**Справядлівы чалавек жыве дзеля таго, каб мецъ ворагаў** і г.д.

Або Артур Шапенгаўэр, нямецкі філосаф, народжаны ў Гданьску:

**Пра самотнасць:**

**Духоўная велічыня ідзе ў пары з непрыстойнасцю. Свабодны чалавек бывае толькі тады, калі ён адзінокі.**

**Пра поспех у кампаніі:**

**Сярод мужчын найбольшы поспех маюць дурні і ігнаранты, сярод жанчын — брыдулі.**

**Пра вялікіх дзяцей:**

**Людзі — як дзеці: становяцца непаслухмянымі, калі мы іх распускаем; таму нельга быць у адносінах да нікога занадта мілым і ўступаць яму.**

А найцікавейшае сцвярджэнне Альберта Эйнштэйна:

| Калі тэорыя рэлятыўнасці акажацца | | |
|---|---|---|
| | **праўдзівай** | **памылковай** |
| | *то я буду* | |
| **для немца** | немцам | яўрэем |
| **для швейцарца** | швейцарскім грамадзянінам | немцам |
| **для француза** | геніем | швейцарцам |

У кніжцы „Dzieje myśli” Яна Тамкоўскага можна прачытаць пра ўсходнія рэлігіі і рэфармацыю, пра Ніцшэ і Фройда, пра Паскаля і Дарвіна, пра Гітлера і Сталіна, пра марксістаў і анархістаў (задача апошніх — знішчэнне дзяржавы, што яны лічаць неабходным варункам абсалютнай свабоды).

Можна таксама пачытаць пра кляштары і найстарэйшыя універсітэты, пра першых друкароў (Гутэнберг не быў вынаходнікам друку, кітайцы друкавалі на гліняных таблічках ужо ў 9 стагоддзі, быў ён аднак вынаходнікам металічнага друку), пра графітны аловак, які вынайшлі толькі ў палове 16 ст. і не меў яго яшчэ Леанарда да Вінчы, пра тытунь — пахучае лісце, якое Калумб прывёз з Кубы.

Даведаемся з кніжкі і пра тое, як Жан Жак Русо, пісьменнік „чуллівага сэрца” і знакаміты тэарэтык выхавання, аддаў у прытулак пяцёра сваіх дзяцей; што Вальтэр (**„Сцеражы мяне, Божа, ад фальшывых сяброў, з ворагамі дам сабе рады!”**) сваімі ворагамі лічыў касцёл як непатрэбную ўстанову, арыстакратыю, фанатызм, цемнату і забабоны, неталерантнасць, няроўнасць; а Уільям Блейк паміраў спяваючы, бо лічыў, што Бог і чалавек неразлучныя, а ўсё, што жыве, святое: Бог знаходзіцца ў нас, мы — гэта ён, а хрысціянства — рэлігія прабачэння; за гэту ж пакорнасць, акцэптацыю цярпенняў, памяркоўнасць, слабасць, каханне бліжняга атакаваў хрысціянства Ніцшэ.

Аж кружыцца ў галаве ад усіх гэтых цікавых рэчаў. А прытым цудоўныя ілюстрацыі, партрэты, табліцы, старажытныя карты — усё каляровае, прыцягвае ўвагу. Купіце або прынамсі пачытайце гэту кніжку!

**Ада Чачуга**

* Jan Tomkowski, *Dzieje myśli*, Państwowy Instytut Wydawniczy, Warszawa 1997.

# Страхоўка ў наручніках

**Сужонства Альжбета і Міраслаў ЛЕАНЮКІ з Орлі вырашылі ў бельскім ПЗУ застрахаваць свежаадрамантаваны жылы дом. Пасля візіту ў страхавой установе і вяртання дадому паліцыянты надзелі мужчыну наручнікі і вывезлі на допыты ў Бельск...**

Расказвае Міраслаў Леанюк:

— У студзені 1997 года параніў я палец правай рукі. Лячыў я яго ў амбулаторыі ў Орлі, у хірурга ў Бельску, затым у прыватным кабінеце ў Гайнаўцы. Урэшце трапіў я ў гайнаўскую бальніцу, аднак вярнуць палец да папярэдняга фізічнага стану не ўдалося. Лекарская камісія 28 ліпеня 1997 года выявіла ў мяне 17% урону ў здароўі, а паколькі я быў застрахаваны, ПЗУ выплаціла мне 2 040 зл. кампенсацыі. У гэты дзень купіў я яшчэ дэталі для тэлевізійнай антэны і вярнуўся дадому. Ужо ў Орлі пайшлі мы з жонкай па магазінах і купілі дзецям боты, газавую пліту, электрычны чайнік і прас.

У сераду, 30 ліпеня, паехалі мы з жонкай у Бельск афармляць справы і купіць сёе-тое ў тамашніх крамах. Артымалася так, што гэты дзень аказаўся надта жахлівым для нашай сям'і. Спачатку пайшоў я да лекара на перыядычныя медыцынскія абследаванні ў завадской амбулаторыі, затым абое падаліся мы на рынак. Там купілі двое штаноў, куртку і абоі для сцен. Па дарозе на вакзал зайшлі мы ў ПЗУ застрахаваць толькі што адрамантаваны жылы будынак. У будынку страхавой установу жонка засталася на нізе ў холе, а я падаўся на паверх, у кантору, каб афарміць страхавы поліс. Там узялі з мяне 72 зл. у якасці страхавога ўзносу і выдалі рэшту са стазлатовага банкнота. Адгэтуль па дарозе на вакзал зайшлі мы яшчэ ў магазін „Унібуда", а затым а гадзіне 15[15] паехалі на аўтобусе ў Орлю.

У Орлі я пайшоў дадому, а жонка — да сваёй маці. Буйныя банкноты паклаў я ў шафу, дробныя грошы пакінуў у кішэні і выйшаў на вуліцу. Не адышоўшы ста метраў ад хаты сустрэў я паліцэйскую машыну, якая тут жа і спынілася. Паліцыянты паклікалі мяне ў машыну. Усярэдзіне сядзела касірша з ПЗУ. Завезлі мяне на пастарунак паліцыі ў Орлі і там адразу запыталі: „Gdzie masz pieniądze?". Я адказаў, што грошы ў мяне ў кішэнях. Супрацоўніцу ПЗУ перавялі ў іншы пакой і я застаўся сам на сам з паліцыянтамі. Тады камендант пастарунка сам выняў з маіх кішэняў грошы, загадаў расправунуцца дагала і вывернуць трусы, а затым груба адазваўся: „Oddawaj sk... pieniądze" і пачаў біць у твар адкрытай далонню. Прытым крычаў яшчэ: „K..., ja cię zaj...", а я ўвесь час не ведаў, пра якія грошы ідзе размова.

Калі я апрануўся, тады загадалі ўзяць рукі назад, надзелі наручнікі і так завезлі дахаты. Паказаў я паліцыянтам дзе ляжыць ключ ад хаты, бо ў наручніках не мог бы адчыніць дзвярэй. У хаце камісар зноў запытаў: „Gdzie, k..., pieniądze trzymasz?" Я паказаў на шафку, адкуль ён выняў каля 300 зл. Потым шнырыў ён па розных каробках, заглядаў у маразілку. Арлянскі камендант зноў тройчы ўдарыў мяне ў твар, два разы ў жывот ды даў выспятка ў азадак. Калі другі раз хацеў штурхнуць мяне нагой, тады сам паслізнуўся, упаў і груба вылаяўся на мяне. Паліцыянты сталі дапытвацца пра жонку, затым паехалі мы да цешчы ды зноў вярнуліся ў хату, дзе праваахоўнікі працягвалі вобыск. А тым часам перад домамназбіралася многа людзей, быццам бы на фэсце нейкім або пажары.

Расказвае Альжбета Леанюк:

— Я гэты жахлівы дзень перажыла вельмі моцна і яшчэ да гэтай пары дрыжыкі ходзяць па маім целе. Калі вярнуліся мы з Бельска, то я пайшла да маёй мамы пераапрануцца, бо акурат ішоў дождж. Яшчэ я не паспела змяніць вопратку, як увайшоў арлянскі камендант і стаў дапытвацца пра закупкі. Яны ляжалі на канапе. Камендант спачатку не хацеў мне растлумачыць у чым справа, але пасля вяртання дадому сказаў, мне што „mąż jest podejrzany o kradzież 2 tysięcy złotych". Я аж за галаву ўзялася...

Працягвае расказваць Міраслаў Леанюк:

— У наручніках паўторна завезлі мяне на пастарунак і толькі там сказалі мне, што касірцы ПЗУ прапалі грошы. Саставілі пратакол і павезлі мяне ў камендатуру ў Бельск. Там мяне не білі, толькі знялі наручнікі і дапытвалі тры гадзіны. Прапанавалі прызнацца і абяцалі, што ўсё мне даруюць. Але як прызнавацца невінаватаму? Пратакол атрымаўся на пяць старонак. Вярнулі мне дробныя грошы, а два стазлатовыя банкноты затрымалі на два тыдні для экспертызы. Следчы патэленфанаў недзе і я пачуў, што можна мяне выпусціць.

Была дзевятая вечара. Аўтобуса ў Орлю ўжо не было і давялося мне вяртацца на таксі, на што затраціў я 25 злотых. А дома скандал, сям'я плача, суседзі скоса паглядаюць на мяне.

Паліцыя грошы вярнула толькі праз тры месяцы, хаця ездзіў я за імі раней, бо не было чым заплаціць за электраэнергію. Раілі чакаць, бо справа зацягнулася з-за канікулярнага перыяду. Урэшце сказалі, што справа спынена. Тады я сказаў, што мне трэба падзякаваць касірцы, але мяне папярэдзілі не рабіць гэтага, бо могуць вынікнуць клопаты.

— Мы не такія людзі, каб цягацца па судах, — гаворыць расхваляваная Альжбета Леанюк. — На маю думку, то касірша павінна нас перапрасіць за паклёп і за нанесеныя нам маральныя шкоды.

— Я да бельскай паліцыі не маю жалю, — кажа Міраслаў Леанюк, — толькі да нашага каменданта... Як бы вы сябе адчувалі, калі б вас падвяргнулі такім здзекам?..

* * *

20 снежня 1997 года наведаў я пастарунак паліцыі ў Орлі, каб даведацца пра меркаванні каменданта наконт гэтай справы.

— Proszę pana, — сказаў камендант, — udzielać nam informacji nie wolno. Wszelkich wiadomości o zdarzeniach udziela rzecznik prasowy komendanta wojewódzkiego w Białymstoku.

На заканчэнне размовы камендант заўважыў з усмешкай:

— Od porównywania informacji jest policja i prokuratura, a prasa może zbierać tylko informacje. Ja za wasze relacje mogę odpowiadać dyscyplinarnie. Ja nawet prywatnie nie mogę nic panu powiedzieć. Bo nie!

* * *

Закон ёсць закон, а жыццё нясе свае карэктывы. Аб гэтым як у Орлі ахоўваецца парадак мелі магчымасць пераканацца на ўласнай скуры некаторыя жыхары мястэчка. Спадзяюся, што пасля гэтага артыкула мясцовая паліцыя будзе абыходзіцца з грамадзянамі выключна згодна з абавязваючымі нас усіх законамі.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Сям'я Леанюкоў.*

# Старэнькія

Зацялася баба Нюра: не азываецца да суседзяў, на дзень добры не адкажа, бы не чуе, а нават кульбачкай можа прыгразіць, калі хто ўжо яе міне ля лавачкі пад плотам, дзе выгравае свае старыя костачкі на сонейку.

— Можа, не чуе? — не хочуць крыўдзіцца маладыя Іванавы. — І ў такім узросце акуляраў насіць не хоча...

Так, яшчэ зусім добра бачыць баба Нюра. Так прынамсі сама кажа. Каб вы такія вочы мелі ў свае дзевяноста два, усміхаецца, калі нявестка, таксама ўжо бабулька, пытаецца, ці костачкі выбраць з рыбы. Бо рыбу вельмі любіць баба Нюра, добра высмажаную, з цыбуляй; нічога, што жуецца цяжка штучнымі зубамі на запалых пашчэнках. Хоць крыху таго смаку пачуеш. А смак рыбы бабе Нюры нагадвае маладосць, калі лавіла рыбу ў рэчцы Омцы ў бежанстве.

Раней баба Нюра вяла свае расказы без пачатку і канца, амаль не гледзячы, ці яе слухач, і толькі пацягвала яго за рукаў, перапытвала: „Чуеш ты ці не?" І паўтарала: „Ну, праўду кажу, так ці не?"

Цяпер і слухачоў тых менш. Тых, найлепшых, малых, як калісьці Нінка і Галінка Грыцавы былі. Яны толькі і чакалі, калі баба Нюра пакліча іх, пачне частаваць грушкамі-гнілкамі, успамінаць пра былое. Не адцягнеш, бывала, дзяўчынак, валамі! А колькі тады дзетак было! Сёння, калі нават хто і падыдзе, то кажа, каб па-польску да яго гаварыць, бытта не разумее. А хай яе, з таю польскаю мовай бабы Нюры! На смех курам! Часам якое прыйдзе, нібы папытаецца, каб упароць які жарт, каб пасмяяцца, — выманяць з бабы Нюры якое слоўца і аж за жываты трымаюцца, так рагочуць.

Але вось зацялася баба Нюра, і да нікога не азываецца! І есці ёй не есца, нават улюбёныя рыба, таўканіца ды квас з гурэчнікам! І на лавачку яе не цягне... Уміраць збіраецца, ці што? Зачапіла яе была Ліда, што да сына прыехала з Беластока.

— Бабо Нюро, а што ж вы да нас не заходзіце? Пра здароўечка не пытаецеся? А як яно ў вас? Расказалі б што нам з мінулага...

— Ой, не, нябось! Не пайду я да цябе, зладзюга! Бяссовесна ты!..

Ліда стала з разяўленым ротам, не могучы слова прамовіць. А ўвечары падалася да ейнае нявесткі. Тут ізноў нарвалася на злосную бабульку.

— Што, зноў украсці прыйшла? Аддай мой сачок, што ў мяне забрала!

— Які сачок?..

— А той, малінавы. Як апошні раз ты прыязджала, я ў вас яго пакінула была. А ты яго і забрала ў той свой Беласток!

Сапраўды, быў у бабулі шыкоўны малінавы жакет, прыгожы, з вялікімі гузікамі, з пудушачкамі на плячах. У ім баба Нюра прэзентавалася вельмі карысна: аж маладзела, праставалася, быццам бы і вышэла. І ў адну нядзельку бабуся, вярнуўшыся з царквы, зайшла да Іванавых. А як сачок прапаў, ніхто і не ведае. Можа, цяля з'ела? Ёсць у Іванавага Валіка такі дурны бычок, што ўсё зжуе: сцягнуў, пэўна, той сачок з плота, ці як... А можа дзе ляжыць ён у шматах? Таго адзення поўна ў хаце...

— Хадзеце, удвох пашукаем, — падхапіла Ліда бабу Нюру пад бок. — Тых ануч цяпер у Валіка столькі, што калі б пасля вайны іх меў, то разбагацеў бы ой-ёй-ёй!

— Табе, Лідо, то ано багацце ў галаве. Зусім самашэча! — задыхалася ад злосці баба Нюра.

Ліда крыху супакоілася, варочаючы ў шафах, на ганку, у куфрах... Адзе сачка нідзе не было.

— Цётачко, я ж яго не брала, — амаль у слязах прамовіла Ліда. — Нашто ж мне ён, у мяне таго адзення хоць прадавай, хоць раздавай... Сюды папрывозіла, пры рабоце зносіцца...

Ніхто не пераканаў бабу Нюру, што сачок мог сам па сабе прапасці. Заўзялася яшчэ больш. Ці не галодны страйк аб'явіла, наслухаўшыся ў тэлевізары пра пратэст лекараў?

— Мамо, ешце, бо ўмрэце... — палохае яе нявестка.

— Эгэ, смерць не такая страшная. Ды і пара ўжо мне, так ці не?

— Мамо, у бальніцу вас адправім, будуць вас калоць крапельніцаю...

— Ага, у Хварошчу схочуць мяне аддаць, як Настулю выслалі, на смерць? Сама ты туды ідзі. У мяне розуму рыхтык што трэба. Гэта вы ўсе параблівся ненармальныя. Каб гэта старога чалавека абакрасці!

І маўчыць баба Нюра перад людзьмі. Толькі шчырая яна перад коцікам, што грэе яе абалелыя, пакручаныя ступакі — кладзецца на іх распрастаны, і вуркоча. Як на кацінч ўзрост — і ён такі ж старэнькі, як бабка Нюра. Але не мусіць плакаць пра адзенне — ніхто ў яго не адбярэ ягонае футра, раз ліняе, іншы раз цалкам шыкоўнае. Можа, і ён пра штосьці ўспамінае, можа, і ён наракае на болі? Але хто там мае час слухаць іх, старэнькіх!

**Міра Лукша**

# Гісторыя маёй вёскі

[1 ☞ працяг]

З ходам часу значэнне ўчасткаў, як меры падзелу зямлі, меншала: іх дзялілі між братоў, часткі аддавалі ў пасаг, гандлявалі імі. У 1934 годзе, калі, як людзі называлі, рабілі калёніі — праводзілі камасацыю, цэлых участкаў асталося толькі некалькі. Камасацыя доўжылася два гады, а праводзіў яе геадэзіт Гладкі пад наглядам інжынера Мокіча. Пасля тае камасацыі зямлю пачалі мерыць у гектарах, і калі ў 1960 годзе праводзілася класіфікацыя глебаў дзеля налогаабкладу паводле іх вартасці, участкі ўжо выйшлі з ужытку, а мерай паверхні зямлі стаў выключна гектар.

З незапамятных часоў паасобныя адрэзкі палёў называлі ўрочышчамі. На войшкаўскіх палях былі наступныя ўрочышчы: Біляўске, Кажамякі, Білёўшчына, Болото, Швайчын узгорак, Кавалевіч, Углы, Ніўка, Дуброва, Луг, Чахавізна, Масткі, Лейцёво, Брадок, Буркі, Рэчка і многа другіх. На сенажацях — Купляніна, Саснавец, Даліна, Старое, Кут, Прыстань.

На асаблівую ўвагу заслугоўваюць два ўрочышчы, распаложаныя па супрацьлеглых канцах вёскі, аднолькава названыя Могілкамі. Адно з іх знаходзіцца над рэчкаю Нарвай побач урочышча Прыстань, на ўскраіне дарогі ў Заячкі. Паводле легенды была там калісь пабудавана царква, а мо нават і першыя вясковыя паселішчы. У якасці могілак гэтае ўрочышча выступае ад 1710 года, калі панавала эпідэмія. Сляды магілак і крыжы захаваліся яшчэ да 1940 года, пакуль не знішчылі іх савецкія салдаты, размяшчаючы там вучэбны лагер. Сёння там цэнтр адпачынку.

Другое ўрочышча, названае Могілкамі, ляжыць на паросшым лесам узгорку, аддаленым на паўкіламетра ад вёскі ў паўночна-ўсходнім напрамку. Яно было абкапана глыбокім ровам, след якога захаваўся да сёння.

На войшкаўскіх грунтах стаіць мост на рацэ Нарве, праз які праходзіць шаша з Беластока ў Бельск. Упершыню пра гэты мост згадваецца ў 1567 годзе: напісана там, што мост паламаны, але мае быць наладжаны да 1576 года. У тым месцы папраўдзе былі тры масты або адзін з трох частак. Галоўны з іх стаяў на сённяшнім рэчышчы Нарвы, два апошнія — на старых рэчышчах. У гутаркавай мове на ўсё гэта гаварылі не *Мост*, але *Масты*. У 1925 годзе масты гэтыя былі разабраны, старыя рэчышчы засыпаны грэбляю і збудаваны быў адзін драўляны мост. Мост гэты быў спалены падчас ваенных дзеянняў у 1939 годзе, у 1940 годзе адбудаваны і, чатыры гады пазней, у 1944 годзе зноў знішчаны. Пасля II сусветнай вайны яго зноў адбудавалі, аднак у 1952 годзе разабралі, а на яго месцы паставілі жалезны мост. Мост гэты быў прывезены з Фардона каля Быдгашчы, а ставіла яго Плоцкае дарожна-маставое прадпрыемства.

У XVIII стагоддзі праз Войшкі праходзіў шлях дзяржаўнай важнасці, які злучаў Варшаву з Вільняй праз Браньск, Бельск, Беласток і Гродна. Праходзіў тут таксама і шлях з Беластока ў Брэст і такім чынам Войшкі былі важным камунікацыйным пунктам. Быў тут ям (паштовая станцыя), на якім трымалі 6-8 пар ямскіх коней і брычак для транспарту падарожнікаў і іх багажоў. Ям гэты стаяў на месцы, дзе сёння жыве спадар Янушкевіч, а вазоўня і стайня — на другім баку вуліцы, на поўдзень ад пляца спадара Рудэчкі. У 1868 годзе ям быў перададзены нейкаму Здановічу, а ад яго перайшоў ва ўласнасць Янушкевічаў.

Спомненым шляхам адбыў сваё апошняе падарожжа кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, едучы ў Гродна. 29 снежня 1794 года праехаў ён на начлег у Беласток праз Войшкі, дзе яго з вайсковай чэсцю вітаў генерал Бенігсен. Памяць пра тое здарэнне захавалася ў жыхароў Войшкаў, а сама падзея была запісана ў прыхадской хроніцы.

Будова чыгункі з Беластока ў Бельск у васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя давяла да таго, што шлях страціў сваё значэнне і ям быў ліквідаваны. Шлях, аднак, надалей адыгрываў важную мясцовую ролю, бо сюдою праходзіла найкарацейшая дарога з Беластока з Бельска, Орлі, Кляшчэляў, Сямятыч і другіх мясцовасцей. Толькі ў 1916 годзе, калі збудавалі шашу з Бельска ў Беласток праз Заблудаў, стары шлях праз Войшкі зусім заняпаў.

На пасляваенныя гады выпадае перыяд напружанай разбудовы дарог; многія з іх атрымалі асфальтавае палатно. Стары шлях праз Войшкі быў абноўлены, атрымаў цвёрды насціл, а з 1985 года пайшла сюдою лінія ПКСу. У далейшых планах прадбачваецца тут пуск трасы з Беластока ў Люблін; мае яна пралегчы па-за вёскай з усходняга боку.

Вёску Войшкі зафіксаваў на старонках „Патопа" Генрык Сянкевіч, згадваючы, што на яе тэрыторыі дайшло да сутычкі між атрадам Анджэя Кміціца і войскам Багуслава Радзівіла.

У XVI стагоддзі на старым русле Нарвы, якое называлі Лондаўкай, у аддегласці 100-200 метраў ад разыходжання Лондаўкі з Быстрай, працавалі два вадзяныя млыны. Адзін з іх быў уласнасцю Фёдара Маматовіча, другі — братоў Радковічаў. Да пачатку нашага стагоддзя захоўваліся яшчэ ўбітыя ў зямлю і ваду палі па іх і вялікая колькасць камення. Мой бацька, Даніла Рудэчка, народжаны ў 1897 годзе, расказваў мне, што вудзіў там рыбу, стоячы на тых палях. Па сённяшні дзень тое месца называюць Млініскам.

Пачаткам культурнага і гаспадарчага развіцця вёскі трэба лічыць перыяд пасля зямельнай рэформы і адмены прыгону, які ў Гродзенскай губерні выпаў на 1863 год. Тады, праўдападобна, была праведзена вясковая дарога і размеркаваны сядзібы; шырыня кожнага сядзібнага ўчастка налічвала 12 сажняў (25,5 метраў).

У 1864 годзе пабудавалі ў Войшках капліцу; яе фундатарам быў граф Міхаіл Мураўёў. Выдзеліў ён на капліцу 500 рублей, за якія была куплена і ікона св. Міхаіла, якая па сённяшні дзень захоўваецца над алтаром. Пасвяціў капліцу гродзенскі архірэй 17 верасня 1865 года. Капліца ў такім стане захавалася да 1970 года; тады за ахвяраванні жыхароў вёскі дабудавалі яе заходнюю частку. У 1992 годзе была дабудавана званіца і куплены звон, таксама за вясковыя ахвяраванні. У 1993 годзе два жывапісцы з Пачаева, Васіль і Любамір Жаданы, напісалі на сценах званіцы чатыры абразы.

У 1872 годзе пачалося машчэнне вясковай дарогі брукам, а ў 1884 годзе заснавалі ў Войшках школу. Яе арганізатарам быў настаяцель Рыбалаўскага прыхода а. Ян Главацкі. Спачатку размяшчалася яна ў прыватных будынках; пазней насупраць капліцы быў пабудаваны асобны школьны будынак. Пасля першай сусветнай вайны купіў яго Арсень Сахарчук сабе на дом, а для школы зноў наймалі памяшканні ў прыватных будынках. Толькі ў 1956 годзе на паўночным канцы вёскі ўзведзены быў новы школьны будынак; грошы на яго выдзеліла Міністэрства асветы. Сваю ролю будынак выконваў на працягу дваццаці гадоў, пасля чаго, з-за малое колькасці вучняў, школа ў Войшках была ліквідавана.

Каля 1900 года жыхары Войшкаў паставілі свіран, у якім мелі захоўваць лішкі збожжа, якое б можна было прадаваць або пазычаць патрабуючым. Дзейнасць свірна не трывала доўга і неўзабаве быў ён прададзены.

Важнай падзеяй была арганізацыя супрацьпажарнай аховы; першым камендантам пажарнікаў быў Пятро Шымчук-Рудэчка. Пажарнікі атрымалі дзве помпы і дзве драўняныя бочкі на двухколках.

Выбух першай сусветнай вайны зусім затармазіў развіццё вёскі. У 1915 годзе амаль усе яе жыхары вымушаны былі выехаць углыб Расіі і толькі пасля пяці-сямі гадоў пачалі вяртацца на радзіму; у тым часе большая частка вёскі была спалена або зруйнавана. Не ўсім, аднак, пашчасцілася вярнуцца ў родную вёску — многія людзі, а нават цэлыя сем'і асталіся ў Расіі назаўсёды. Многія людзі загінулі на франтах або памерлі па другіх прычынах, а тых, што вярнуліся, дабівалі хваробы. Тыя, што выжылі, сваёю цяжкаю працаю станавіліся на ногі. Будавалі і адбудоўвалі знішчаныя будынкі, заворвалі аблагі і сеялі збожжа. На той час свае будынкі і конь былі вялікай маёмасцю.

Другая сусветная вайна, якая ўспыхнула ў 1939 годзе, сваім жахам ахапіла нашу вёску ў невялікай ступені. Тройчы праходзіў сюдою фронт: у 1939, 1941 і 1944 гадах. 25 чэрвеня 1941 года ва ўрочышчы Камароўка, што па дарозе з Войшкаў у Канюкі, дайшло да бою між савецкімі і нямецкімі войскамі; пала тады многа савецкіх салдатаў. За тыя пяць гадоў вайны загінула ў розных абставінах 29 жыхароў вёскі, згарэў 21 будынак, 11 сем'яў выехала ў СССР на пастаяннае жыхарства.

Перыяд другой сусветнай вайны адмоўна адбіўся на гаспадарчым жыцці вёскі. Палітычныя ўмовы таксама не спрыялі тыповай Войшкам сельскай гаспадарцы. Развіццё вёскі затармазілася, і толькі некалькі гадоў пасля вайны наступіў эканамічны зрух. Пачалася будова новых дамоў і гаспадарчых збудаванняў. У 1954 годзе ў вёску была праведзена электрычнасць, пачалася механізацыя гаспадарак. У 1990 годзе налічвалася ў вёсцы каля шасцідзесяці трактароў і нямала самаходаў. У 1990 годзе ў Войшках пракладзены быў водаправод: у кожны дом была праведзена вада. Нягледзячы на гэтыя выгады вёска пачала абязлюджвацца. Моладзь, без асаблівых цяжкасцей, вывучыўшы несялянскія прафесіі, пачала масава сяліцца ў гарадах. На вёсцы аставаліся толькі пажылыя людзі, а многія гаспадаркі, у якіх не стала рук для працы, і зусім спынілі існаванне. Трымаюцца толькі тыя гаспадаркі, у якіх асталіся маладыя людзі.

**Іван Рудэчка**

[1 ☞ працяг]

*Спадар Рудэчка нічым звонку не вылучаецца. Як і большасць старэйшых вяскоўцаў, ён ужо на пенсіі; семнаццаць гадоў таму здаў гаспадарку дзецям, якія, упершыню ў гісторыі роду, пакінулі вёску. Да іх жа ўсё ў сям'і Рудэчкаў было традыцыйна: гаспадарылі сямейна. Сам спадар Іван Рудэчка, якому ўжо 65 гадоў, гаспадарку атрымаў у спадчыну ад дзеда і бацькі. Хату стаўляў бацька, калі спадару Івану было 18 гадоў. У бацькі былі ўжо тады машыны: сячкарня, веялка, шырокамалотка. І Іван Рудэчка астаўся на гаспадарцы, па-за хатай адно вайсковую службу адслужыў. І нават у школы не выязджаў; школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі закончыў у Бельску экстэрнам. І ў такіх умовах ягоная цікавасць да вёскі дзе ва дамоў — унікальная з'ява.*

*— У школе ў Юхнаўцы, — расказвае ён, — праводзілі конкурс ведаў пра свае вёскі, і нашы войшкаўскія дзеці, якія карысталіся маімі занатоўкамі, выпалі найлепей, бо ніхто ў наваколлі не вядзе такой як я вясковай хронікі.*

*Спадар Рудэчка амаль кожную вольную хвіліну прысвячае кнігам — вядома — з гістарычным зместам. А з напісанай ім гісторыяй сваёй „малой айчыны" прапаную пазнаёміцца і нашым чытачам.*

***Аляксандр Вярбіцкі***

# Аб прадузятасці да Маліннік

**Адгалоскі**

Пішу я ў справе адгалосак „Праўда вочы коле" („Ніва" № 50) і „Вакол школы ў Малінніках" (№ 47), якія з'явіліся пасля артыкула Міхала Мінцэвіча „Настроі вакол школы ў Малінніках" (№ 43 ад 26.11.1997 г.). З усяго напісанага вынікае, што аўтар артыкула выразна здзекуецца над настаўнікамі малінніцкай школы. Спецыяльна прыехаў ён сюды, каб паказаць малаважнасць нашай школы, хаця яе навучэнцы пісалі ў „Зорку", выступалі на дэкламатарскіх конкурсах і да 1996/1997 года ўсе традыцыйна вывучалі родную беларускую мову. Пра станоўчыя з'явы спадар Мінцэвіч прамаўчаў, бо, відаць, не любіць ён людзей з вёскі. Праўда, у нас людзі кажуць: „Хто з Орлі або Шарнёў, той ілгун і ашуканец".

Вернемся, аднак, да пытання беларускасці нашай вёскі. Калі Міхал Мінцэвіч стаў публікаваць артыкулы на тэму Арлянскай гміны і народнай абраднасці, я вельмі ўцешыўся, што ў канцы з'явіўся ў нас храніст, які захавае ад забыцця наша культурнае багацце. Памятаю, як вяскоўцы ткалі і прадавалі саламяныя маты, як у кожным доме выпісвалі „Ніву" ці „Kraj Rad". Памятаю, як у сямідзесятых гадах (мне тады было 4-5 гадзікаў) бацька прывозіў „Ніву" з Бельска, а я вырэзваў здымкі і „ляпіў" іх на печку. Тады ў Малінніках існаваў беларускі гуртоk, працаваў беларускі калектыў.

І цяпер Маліннікі — гэта не толькі падпітыя мужыкі вакол магазіна. Так ж абразок можна сустрэць і ў Орлі і то не ў адным месцы. Няма вам чым хваліцца, спадар Мінцэвіч, бо каб не войт Міхал Іванчук, родам з Маліннік, Орля ўжо даўно прыйшла б у заняпад.

Пра Маліннікі не раз пісалі беларускія і ўкраінскія часопісы, гаварылі ў перадачах Беластоцкага радыё, але ніхто не напісаў так прадузята непрыхільна як Міхал Мінцэвіч. Мая папярэдняя радасць ад дапісаў з Арлянскай гміны ператварылася ў расчараванне, у аснове якога ляжыць прадузятая неаб'ектыўнасць ніўскага карэспандэнта з Орлі.

**Яська, гаспадар з-пад Маліннік**

# Парнасік

### Надыход зімы

Адшумеў ўжо лістапад.
Ўсе лісты апалі.
Адляцелі жураўлі
ў невядомы далі.

Ідзе з поўначы зіма
крокам пэўным, роўным.
Глядзіць: блішчаць вады
баразёнкі поўны.

Да балота ў каляінах
ставіцца варожа,
па якіх праехаць воз,
ні трактар не можа,

Да аджыўшага лісця,
пажаўцелай траўкі,
пустазелля драпачоў
ля дарог на ўзгорку.

Бачыць, трэба навясці
усюды парадак:
каляіны замясці,
дарогі загладзіць.

І парадак навяла
ў адну ноч зіміца:
Каляіны занясла,
ўсюды снег іскрыцца.

**Марыя Манаховіч**

### Каб мароз нас не закаваў

Мароз і адліга —
Гэта асаблівая кніга.
Гэта, лічыць, — зімовы аналіз:
Стрэлка градусніка ідзе то ўверх,
то ўніз.
Высокі ціск атмасферны —
Будзь марозу тады верны;
А калі ціск нізкі —
*Ломяцца* косці, і не да „калыскі”.
У снежні маразы трашчаць,
Стараемся ад іх уцякаць.
Хаця мароз — не лік множны,
Але часта пякучы і злосны.
Пра яго напісаны вершы, паэмы...
І маем з ім часта праблемы.
Водаправод замерзне — катастрофа!
І за наладку пойдзе часта карова.
Ды і абагравальныя трубы
бяссільныя —
Лопаюць ад марозу і гэта справа
не дзіўная;
Амаль кожны гэта перажыў,
у каго *цэнтральнае*,
Хаця наракаюць, што сёння
жыццё марнае.
І кожны мае сваю праўду і рацыю,
Таму неабходна трымацца
свайго гонару і нацыі.
І тады ніякі мароз не ў сілах
нас зламаць,
Калі свой народ і радзіму
будзем шанаваць.
Тады будзе цяпло і прыемная адліга
І адкрыецца зімовая кніга,
Якую будзем чытаць сваёю
любоўю да прыроды
З цяплом у сэрцы і асалодай.
Каб мароз нас не закаваў,
А ўсіх нас шанаваў,
Трэба дружна заўсёды *трудзіцца*
І ніколі не сварыцца.

**Мікалай Панфілюк**

### Лясун

Цяжка ўсё сядзець у хаце,
Пайду на двор і пахаджу
Ці шпацырком пайду да лесу,
Свежым ветрам аддыхну.
Іду па лесе, моцна дыхаю,
Бачу: тут жоўты свежы пень,
Пры ім бы куча зялёная,
Ці то мох, ці можа звер?
Падышоў я да пня бліжэй,
Гляджу — гэта ж чалавек!
Руку пад галаў палажыўшы,
Спіць спакойна, бы навек.
Шкада мне стала, бо ж — жывы,
Яшчэ замерзне той нябога,
І для сям'і колькі бяды!
„Уставай, табе дамоў дарога,
Завесці мо цябе туды?”
Тут дзядзька чуць разварушыўся
Ды кінуўся вось так крычаць:
„Чаго ты тут так прычапіўся,
Я мушу злодзея чакаць!
Прыедзе ён тут на світанку
Вось гэту хвойку забіраць.
Мне паўлітэрку на пень ставіць,
І зноў пачнем мы баляваць!”
І стаў я зноў яго прасіці:
„Ідзі дахаты, дарагі,
Бо твае вушы як у сіньцы,
І ўсё ўжо на табе дрыжыць.”
Лясун зноў горда адазваўся:
„Ідзі, адкуль прыйшоў сюды!
Ды да мяне ты не мяшайся,
Жонцы нічога не кажы!”
Дык павярнуў я крута ўлева
І рушыў проста, да сябе.
Ну, замярзай, каб це халера,
Як няма толку у табе!

**Мікалай Лук'янюк**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне! Нейк не спіцца мне апошнімі начамі. Часта прачынаюся, ляжу, а ў галаву пхаюцца розныя думкі, разважанні, ды ўсе яны цяжкія, здаецца, безвыходныя. Але вось заснула я моцным сном ледзь не раніцай. Неўзабаве ўжо ўставаць трэба было. І прысніліся мне ў гэты кароткі час аж два сны.

Першы. Я непадалёк кватэры, дзе жыву. Але гэта нейкае пустое поле. Няма ні будынкаў, ні дрэў, проста — нічога. Усё гэта поле пакрытае снегам. А снег той такі прыгожы: белы-бялюсенькі, пушысты, лёгкі, такі, які бывае ў вялікі мароз, і лёгенька кладзецца на зямлю. Я адна іду па гэтым снезе, дзе няма ніводнага следу.

Але, адышоўшы кусок, глянула я налева, а там... былы мой зяць са сваімі сябрукамі сядзіць, а побач з ім маладзенькія дзяўчаткі. Я гляджу і думаю: „Чаго ж гэта дзяўчаткі з імі сядзяць?” Не затрымоўваючыся, пайшла далей. Іду і чую за сабой крокі... Нехта гоніць мяне. Я, не аглядаючыся, падумала, што гэта зяць, і пачала ўцякаць. Бягу штосілы, але ж ведаю, што не здолею ўцячы ад яго. Ён усё бліжэй, вось-вось схопіць мяне. Са страху і стомы я ледзь крыкнула: „Ратунку!” і прачнулася.

Другі сон. Уваходжу ў будынак, дзе працую, а там такі страшэнны балаган! Працаўнікоў не бачу, адно кіраўніка заўважыла. Кажу: „Я крыху прыбяру, бо ж немагчыма быць у такім балагане!”

**Галіна**

Галіна! У тваім першым сне белы, прыгожы, пушысты снег мог бы абазначаць для цябе прыбытак і добрае здароўе ды наогул поспех, калі б... не гнаў цябе твой зяць, ад якога ты ўцякала са страху. З гэтага вынікае, што ты будзеш мець нейкую небяспечную справу з зяцем (можа гэта быць падзел маёмасці), і ўсё не будзе выглядаць так ружова. Што датычыцца другога сну, дык, праўдападобна, у цябе на рабоце адбудуцца вялікія перамены.

**Астрон**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 755. Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, клас IV „б” і IV „д” ............ 50,00 зл.
4 756. Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім, клас І „б” ............ 40,00 зл.
4 757. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) ............ 12,00 зл.
4 758. Яўгенія Палоцкая (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 759. Галіна Рамашка (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 760. Віталь Луба (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 761. Марыя Федарук (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 762. Міраслава Лукша (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 763. Ада Чачуга (Беласток) ............ 10,00 зл.
4 764. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) ............ 50,00 зл.
4 765. Ахвяраванні сабраныя спадарыняй Аленай Анішэўскай у час сустрэчы 25.11.1997 г. у Варшаве ............ 70,00 зл.
4 766. Анастасія Цімашук (Гайнаўка) ............ 6,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. металічны стрыжань для змацоўвання, 8. дзяржава з Дамаскам, 9. індыйскі прынцып непрычыняння зла, 10. казахская сталічная рака, 11. жыве ў манастыры, 13. Урыэль, яўрэйскі філосаф (1585—1640), 15. рака на захадзе Афганістана, 16. заслона, 20. Тадэуш, амерыканскі генерал народжаны ў Сяхновічах на Брэстчыне (1746—1817), 22. першы цар Паўночнага царства Ізраіля са сталіцай у Сіхеме, 23. б'е, не заб'е (перад Вялікаднем), 27. Аляксандр, расейскі пісьменнік і публіцыст (1824—64), 29. Жан, французскі кінарэжысёр (1894—1979), 30. вялікая балотная птушка, 31. горад у Бельгіі між Бруселем і Гентам, 32. жыхар Новай Гвінеі, 33. хваёвае дрэва з доўгімі іголкамі, 34. горад у Індыі з архітэктурным комплексам Тадж-Махал.

**Вертыкальна:** 1. японская нацыянальная адзенне, 2. жывёла з доўгай шыяй, 4. Максім, магілёўскі кнігавыдавец і друкар (сярэдзіна 17 ст.—1708), 5. насякомае-крывасмок, 6. дарадчы орган пры патрыярху, 7. буйная ікрыстая рыба, 12. Сакутара, японскі паэт (1886—1942), 14. Іасафат, уніяцкі царкоўна-палітычны дзеяч, забіты і ўкінуты ў Дзвіну ў Віцебску (1580—1623), 16. баваўняны аксаміт, 17. мясцовасць у Францыі пад Пірэнеямі, мэта каталіцкіх паломніцтваў, 18. асірыйскі бог вайны, 19. жонка Аўраама, 21. горад у Пенджабе з Залатым храмам сікхаў, 24. Леаш, чэшскі кампазітар (1854—1928), 25. старажытнарымская багіня вайны, 26. бацька Ікара, 27. горад у штаце Мінесота над Верхнім возерам, 28. летняе жыліўча якутаў. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 47 нумара**

**Гарызантальна:** вокіс, палеазаўр, молат, кусок, Інд, асколак, альтыст, сэр, нанос, штыфт, кананерка, Сізіф.

**Вертыкальна:** Скрабін, валет, Сваяк, палкоўнік, расстрыга, мусон, кісет, ікс, дар, элінізм, сінус, шэрыф.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.


# Ніва

„Niwa”, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранович.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1988 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

Фрашкі пра нашых

## Мішч

Не бядуй, Мікола,
што вершаў трэ дзвесце,
Каб зборнік у друк
адправіць дыхтоўны.
Яну пяцьсот іх
сказалі прынесці.
Адразу два выдаў.
І хто яму роўны?

**Вандал Арлянскі**

## Думкі ў час мігрэні

* Гады мінаюць — чалавек астаецца, чалавек мінае — гады астаюцца.
* Бусел забірае лета, а вясну прыносіць.
* Зайздросны круціць біч сам на сябе.
* Шчаслівы ў жыцці той, хто выконвае працу, якую ён любіць.
* Хвароба цела пачынаецца з душы.
* У шчасця і няшчасця ёсць адна супольная прыкмета — прыходзяць нечакана.
* Моцны не той, хто слабога прыгнятае, а той, хто яму руку працягае.

**Пётр Байко**



— *Мы з горада. Прыехалі да вас чыстым паветрам падыхаць.* Мал. А. Умярова

## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Размова між маладым сужонствам:
— Што ты, каханая, сёння наварыла на абед?
— Сама не ведаю — ад кансервавай банкі адклеўся этыкет...

* * *

— Перад вяселлем ты абяцаў мне залатыя горы...
— Гэта праўда; але пра сціральны аўтамат я нічога не казаў.

* * *

— Паводзіш сябе невыносна эгаістычна: мая жонка, мой ложак, мая зарплата. Няма тут нічога твайго: усё наша, супольнае!.. Чаго шукаеш у шафе?
— Нашых штаноў.

* * *

Гутараць два сябры:
— Хто табе больш адпавядае: жонка ці каханка?
— Вядома, што жонка: без яе я не дацаніў бы каханку.

* * *

— Цікава, як ты дайшоў да такое прыгожае жонкі?
— Да такіх жанчын не даходзіцца, толькі прыязджаецца на аўтамабілілюкс!

* * *

— Чаму сварышся з жонкаю на вуліцы?
— Бо перад шлюбам абяцаў, што ў хаце не падніму на яе голасу.

* * *

Маладая жанчына скардзіцца гінеколагу:
— Ад шасці гадоў не магу зацяжарыць...
— Прашу распранулца і легчы на ляжанку!
— А ці не можна гэтага зрабіць так, каб гэта было дзіця майго мужа?

* * *

Маладажоны пасяліліся ў новую кватэру і наладзілі з гэтай нагоды вялікую і гучную гасціну. У яе разгар пазваніў тэлефон, трубку ўзяла жонка і пасля размовы кінулася мужу на шыю:
— Як гэта цудоўна, што мы пасяліліся тут, а не на ніжэйшым паверсе! Званіў вось сусед, які там жыве, і скардзіўся, што ў яго кватэры невыносны шум.

# Мазахіст

Чаму ў мяне такі выгляд, быццам бы я аршын праглынуў? Цікавая, браце, гісторыя...

Быў я якраз напярэдадні Новага года ў замежнай камандзіроўцы. Зрабіў усе справы, вяртаюся вечарам да сябе ў гатэль. А ў мяне яшчэ грошы засталіся: трохі сэканоміў. Думаю, як з імі культурна развітацца. Адчыняю дзверы — і раптам бачу на падлозе візітку. На ёй нешта гэтак драбнютка напісана, я разабраў толькі словы „Інтым-сервіс”. І нумар тэлефона. Усё ясна, думаю. Мо паспрабаваць на развітанне іхняга сервісу? Уздыхнуў глыбока — і пазваніў.

Мінула з паўгадзіны — грукаюць у дзверы. Адчыняю... Бачу: прыгажуня, якіх я ну ніколі не бачыў! Першая думка: ці хопіць грошай? Але ж адразу паказваю на крэсла — „пліз”: маўляў, зараз трохі пагаворым, па чарцы прапусцім. Яна ж ставіць на стол сваю сумку ды паказвае на ложак: распранайся. Здзіўляюся, але ўсё, як загадана, выконваю. Застаюся ў чым маці нарадзіла, а кабета паказвае: давай на жывот! Раблю ўсё, як след. Бачыла б мяне мая жонка!.. Чую, прыгажуня ўзяла нешта з сумкі. І раптам на маіх руках наручнікі — шчоўк! Не паспеў я зразумець, у чым справа, як рукі мае да спінкі ложка прыкаваныя! Тут я халодным потам абліўся. Зараз, думаю, рабаваць і забіваць будуць! А кабеціна тым часам зноў-такі бярэ нешта з сумачкі. Мо пісталет?.. Заплюшчваю вочы і ў думках развітваюся з жыццём. Тут пачуўся свіст, і спіну мне быццам цыркулярнай пілой разадрала. Я крычу сабе, а кабета сцябае мяне пугай. І высцебала-такі!.. Хвілін дваццаць працягвалася гэтая экзекуцыя, пакуль жанчына не стамілася. Я і не заўважыў, як яна адамкнула наручнікі, знайшла мой партманет, выцягнула з яго грошы — і толькі яе і бачылі...

Дома жонка мая як мяне ўбачыла, дык адразу залямантавала: што ж гэта за пачвара над табой здзекавалася? Давялося байку прыдумаць: маўляў, мафія за нашымі заводскімі сакрэтамі па ўсім свеце ганяецца ды выкрыла мяне, аднак паліцыя выратавала...

А візітку тую я прыхапіў з сабой. Мне потым знаёмыя хлопцы пераклалі ўсё. Там і на самай справе „Інтым-сервіс” быў, але толькі не звычайны, а... для мазахістаў.

**Генадзь Ануфрыеў**
*(„Вожык”)*

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Усё было запланавана добра. З хлопцам, з якім мы хадзілі ад лістапада, я выбралася на навагодні, сільвестравы баль. Мы разам з ім вучымся ў школе бізнесу першы год.

Ён мне прыглянуўся адразу. Такі прыгожы і статны! Дзяўчаты, мае сяброўкі, крыху з мяне падсмейваліся: во, яшчэ вучыцца не пачала, а ўжо можна замуж выходзіць. Я аднеквалася, што нічога асаблівага між намі няма, але па мне, бадай, было відаць, што я закахаая. Праўда, бывае так, што чалавек чалавека пакахае адразу?!

Хлопец жыў на кватэры і калісь запрасіў пару сяброў і сяброўак на „ўваходзіны”. Ад таго часу мы пачалі хадзіць. Я прадставіла яго маім бацькам, але не спадзявалася іх рэакцыі. Я думала, што яны, як і я, будуць проста на крылах. Ну, вось знайшла ж я адразу хлопца ў вучэльні, ды і не абы-якога прытым. Іншыя дзяўчаты аж пішчаць, каб хоць адным на дыскатэкі не хадзіць, каб хоць хтосьці іх палюбіў, а я — з ходу!

Бацькі, аднак, мелі іншы погляд на гэту справу. Табе цяпер вучыцца трэба, а не хлопцамі галаву сабе дурыць, сказалі яны рашуча. Мо яны і мелі рацыю, але наш падыход да справы выкарыстання маладых гадоў быў цалкам розны. Я лічу, што жывецца раз, ці ж не праўда, Сэрцайка?! І, мне здаецца, што ўсё, што чалавечае, чалавеку не чужое. Бацькам жа гэтае „бранне” жыцця не надта падабаецца. Калі залішне браць, дык хутка можа ўсё скончыцца, асцерагалі яны мяне.

Вядома, што мяне іхныя залішнія стаpанні пра маю адукацыю і наогул будучыню ўвесь час даволі-такі нервавалі. Аднак жа не думала я, што дойдзе ў нас да скандалу.

Кажу табе яшчэ раз, усё мы запланавалі добра. Мелі пагуляць на балі, сустрэць там Новы год, а пасля пайсці да хлопца на кватэру, дзе выpашылі прадоўжыць святкаванне ўдваіх.

Не ведаю, мо не варта было ісці да яго адразу пасля дванаццатай, тады не дайшло б да таго, да чаго дайшло...

Не прадчувалі мы, аднак, нічога дрэннага. Паціху ўвайшлі да яго ў пакой, каб гаспадары не прачнуліся. І было цудоўна. Мы кахаліся, як першы раз, калі я яму аддалася. Даслоўна не маглі адарвацца адзін ад другога. І так сталася, што дахаты ён мяне правёў толькі раніцай.

Стоячы каля нашага блёка і цалуючыся з хлопцам на развітанне, я не магла сабе ўявіць, што мяне чакае дома і што дзеялася на балі ў нашай школе пасля таго, як мы адтуль выйшлі.

Брутальны крык бацькі: „Дзе была?!” вярнуў мяне да рэчаіснасці. Я атарапела, але адказала, што на балі. „На якім?” — даслоўна кінуўся ён да мяне. Я маўчала, бо бачыла, што ніякія тлумачэнні мне не памаглі б. Ну, што, сказаць, што мы шпацыравалі да восьмай раніцы?..

Маці пачала плакаць. Высветлілася, што яны пайшлі па дванаццатай у школу на баль, каб там адразу павіншаваць мяне з Новым годам, але нас там ужо не было. Сябры і сяброўкі толькі павенчалі ім, што мы ўжо выйшлі.

Вярнуўшыся дахаты, яны яшчэ доўга чакалі мяне, але дзесьці каля трэцяй страцілі надзею. Я не вытрымала, кажу: „Тата, мама, я ж ужо вялікая дзяўчынка, хутка мне дваццаць споўніцца, ці я мушу нешта тлумачыць?! Некаторыя ў маім узросце ўжо дзяцей маюць, а я не магу з хлопцам сустрэцца?!”

Пэўна, я зрабіла кепска, мо трэба было нешта змяніць, але я не хацела гэтага. Што рабілася дома, апісаць немагчыма. Цяпер у мяне ў хаце страшэнны рэжым: а дзесятай я павінна быць дома, нікуды бацькі не дазваляюць хадзіць.

Парай, Сэрцайка, што рабіць...

**Аня**

Аня! А да дзесятай нельга зрабіць таго, што ты ў навагоднюю ноч рабіла пасля дванаццатай?..

У такой сітуацыі мо сапраўды лепш было б сказаць бацькам, што вы хадзілі з пажаданнямі па іншых балях. Некаторыя ж так робяць. Моладзь наогул не інфармуе сваіх бацькоў, што, дзе і калі яны робяць, хаця робяць тое таемна з запалам, ды могуць гэта рабіць усюды. Але бацькі не любяць ведаць пра гэта. Яны ахвотней уяўляюць сабе, што іх каханая дачушка чакае, пакуль не скончыць школу, бо толькі тады ёй можна выйсці замуж і пайсці з каханым у пасцель.

Думаю, ты павінна растлумачыць сваім бацькам, што іншыя гэта робяць намнога раней.

Што не абазначае, быццам я намаўляю да распусты. Проста сцвярджаю факт.

**Сэрцайка**